


# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

3 ліпеня 2020 года №27 (1314) 18+


# З Днём вызвалення!

## Калі ў 1944 годзе вызвалілі гарады рэгіёна

Вілейка – 2 ліпеня

Астравец – 3 ліпеня

Мядзел – 4 ліпеня

Смаргонь – 5 ліпеня

Маладзечна – 5 ліпеня

Валожын – 5 ліпеня

Ашмяны – 7 ліпеня

**Як 5 ліпеня 1944 года вызвалілі Маладзечна і чаму немцы да апошняга не аддавалі горад**

старонка 20

Фота kamozin100.ucoz.net.

**Гараскоп** старонка 23



**Як чэрвеньскай ноччу 1941 года расстрэльвалі вязняў ашмянскай турмы** старонка 19

**Беларуска распавяла пра акцыю салідарнасці ў Празе** старонка 21

**У гарадскіх аўтобусах Вілейкі цяпер можна набыць смарт-білет і праязны па QR-коду** старонка 7


ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## Фестываль-конкурс «Адна зямля» перанеслі на нявызначаны тэрмін

**Пра гэта карэспандэнту паведамілі ў аддзеле культуры, ідэалогіі і па справах моладзі Валожынскага райвыканкама.**

– Усе масавыя мерапрыемствы адменены. Будзем глядзець, як складзецца сітуацыя. А пакуль фестываль пераносіцца на нявызначаны тэрмін, – адзначыў начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі **Вікенці Адамовіч**.

**Нагадаем, што сёлета фестываль-конкурс выканаўцаў эстраднай песні павінны быў прайсці ў Валожыне.**

Менавіта гэты горад атрымаў эстафету на правядзенне мерапрыемства падчас фестывалю ў Маладзечне ў 2019 годзе.

«Адна зямля» – фестываль-конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні, які праводзяць па чарзе на Валожыншчыне і ў адным з раёнаў беларускага Павілля: Маладзечанскім, Вілейскім, Мядзельскім, Ашмянскім, Смаргонскім, Астравецкім.

**Першапачаткова заснавальнікамі фестывалю сталі аддзелы культуры Маладзечанскага, Валожынскага і Ашмянскага райвыканкамаў і рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты». Пасля далучыліся прадстаўнікі іншых раёнаў Павілля.**

Першы фестываль адбыўся ў 1999 годзе на стадыёне ў Чысці.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Ушанавалі памяць аўтара ўкраінскай Канстытуцыі

ВІЛЕЙКА

**28 чэрвеня вёска Касута, што Вілейшчыне, сустракала высокапастаўленых гасцей. З нагоды Дня Канстытуцыі Украіны вёску наведаў пасол Украіны ў Беларусі Ігар Кізім.**

Свята не выпадкова адзначаюць на Вілейшчыне – менавіта ў Касуце нарадзіўся і вырас **Піліп Орлік**, аўтар першай украінскай Канстытуцыі.

– Мы сабраліся тут, каб прыгадаць яго, – кажа **Галіна Калюжная**, старшыня камісіі беларускага грамадскага аб'яднання украінцаў «Ватра». – Піліп Орлік – знакавая постаць не толькі для беларусаў і украінцаў, але і для ўсяго свету. Яго добра ведаюць у Чэхіі, Аўстрыі і Швейцарыі.

Да ўрачыстасці ў Касуце далучыліся першы сакратар пасольства Украіны **Іван Башняк** і кіраўнік спраў Крывасельскага сельсавета **Кацярына Лузько**, а таксама прадстаўнікі украінскай дыяспары ў Беларусі.

– Для нас важна дагледзець гэта месца, – кажа **Леанід Лысакабылка**, намеснік старшыні маладзечанскай суполкі украінцаў «Краяны». – Ля мемарыяльнага каменя мы штогод садзім кветкі, як і цяпер. Сёння дэлегацыя таксама наведала службу ў Свята-Петра-Паўлаўскай царкве.

Сёлета Канстытуцыі Піліпа Орліка спаўняецца 310 гадоў. Да гэтай даты яе выпусцілі ў двухмоўным варыянце – на украінскай і беларускай мовах. Прэзентацыя кнігі адбылася 25 чэрвеня ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**
**Фота аўтара.**



Удзельнікі ўрачыстасці ў гонар Піліпа Орліка.


Магчыма, на чарніцах атрымаецца зарабіць.

# Чакаюць добрага ўраджаю чарніц

## Закупачная цана будзе не ніжэй за два рублі за кілаграм

**Белкаапсаюз чакае добрага ўраджаю чарніц. Закупачная цана будзе не ніжэй за два рублі за кілаграм, паведаміла сёння начальнік упраўлення нарыхтовак Белкаапсаюза Аксана Скіндар.**

– У гэтым годзе мы чакаем ураджай чарніц, грыбоў.

> **Умовы надвор'я спрыяюць вядзенню нарыхтовак.**

Сёння складана сказаць, якая будзе экспартная цана, але па закупачнай цане на тэрыторыі Беларусі мы ўжо вызначаемся – пакуль гэта будзе не ніжэй за 2-2,3 рубля за адзін кілаграм свежых чарніц, – адзначыла Аксана Скіндар.

Што тычыцца закупкі клубніц, то, як патлумачыла Аксана Скіндар, надвор'е пагоршыла ўмовы для нарыхтоўкі гэтай ягады. Тым не менш, спажыўкааперацыя разлічвае захаваць аб'ёмы нарыхтоўкі 2019 года.

> **Летась шмат клубніц экспартавалі ў Расію. Высакаякасныя клубніцы закуплялі ў фермераў.**

Сёлета экспарту перашкодзіла пандэмія.

> **Каб рэалізаваць ягады, якія хутка псуюцца, сёлета з клубніц пачалі рабіць віно.**

Па словах спецыялістаў, Расія – асноўны рынак збыту беларускіх клубніц. У Польшчу і краіны Балтыі часцей экспартуюць чарніцы, дурніцы, грыбы.

**Паводле БелТА.**

## ЦВК праверыў подпісы прэтэндэнтаў у кандыдаты

30 чэрвеня ЦВК завяршыў праверку подпісаў прэтэндэнтаў у кандыдаты ў прэзідэнты Беларусі.

**Аляксандр Лукашэнка** – 1 939 572

**Віктар Бабарыка** – 165 744

**Ганна Канапацкая** – 146 588

**Сяргей Чэрачань** – 143 109

**Андрэй Дзмітрыеў** – 106 841

**Святлана Ціханоўская** – 104 757

Па дадзеных ЦВК, пасля праверкі **Валера Цапкалы** засталося 75 249 подпісаў. Нагадаем, каб стаць кандыдатам, трэба 100 тысяч подпісаў. Цапкала на прэсавай канферэнцыі 1 ліпеня заявіў, што будуць абскарджваць забракаваныя подпісы.

14 ліпеня ЦВК правядзе нараду, на якой абвесцяць кандыдатаў у прэзідэнты.

**Аддзел інфармацыі.**

## Правялі электронны кірмаш вакансій

**СМАРГОНЬ**

Упраўленне па працы, занятасці і сацыяльнай абароне райвыканкама 24 чэрвеня на адзінай інфармацыйнай **e-vacancy.by** правяло электронны кірмаш вакансій арганізацый Смаргонскага раёна.

У мерапрыемстве ўдзельнічала восем арганізацый. Яны прадставілі шукальнікам 99 працоўных месцаў. Сярод іх Смаргонскі камбінат хлебапрадуктаў, Смаргонская ЦРБ, заводы аптычнага станкабудавання, «Смаргоньсілікатабетон», «Красносельскбудматэрыялы», ЖКГ.

Па электронную кансультацыю звярнуліся 38 шукальнікаў.

Наступны кірмаш зладзяць у лістападзе, паведамляюць у Смаргонскім райвыканкаме.

**Аддзел інфармацыі.**

## Ад 1 ліпеня ЕС адкрывае межы. Але не для Беларусі

Паслы ЕС узгаднілі спіс 14 «бяспечных» краін, грамадзяне якіх змогуць уязджаць у краіны Еўрасаюза. З пераліку выключылі ЗША, Бразілію і Кітай.

У спісе Алжыр, Аўстралія, Грузія, Канада, Марока, Новая Зеландыя, Паўднёвая Карэя, Руанда, Сербія, Тайланд, Туніс, Уругвай, Чарнагорыя, Японія.

Вялікабрытанія вядзе перамовы аб «паветраных мастах» з некалькімі дзяржавамі – членамі ЕС, каб каронавірус не цалкам блакіраваў летнія канікулы – самы загружаны сезон у Еўропе для турызму, у якім занятыя мільёны людзей.

Беларусі сярод «бяспечных» краін няма. Таксама, дарэчы, як Расіі, Украіны, Малдовы.

Працэдура ЕС у фармалізацыі спісу і крытэрыяў, паводле якіх краіны ацэньваюцца як «бяспечныя», павінна быць завершаная да 12:00 аўторка. Адзначаецца, што пералік ухвалілі мінімум 55% краін ЕС.

**Паводле bbc.com.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**90 600** кіламетраў

Такая агульная працягласць усіх рэк Беларусі

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 25.06 | 2.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.3726 | 2.4243 |
| Еўра | 2.6805 | 2.7228 |
| Злоты, 10 | 6.0283 | 6.0953 |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4407 | 3.4159 |
| Грыўня, 100 | 8.8995 | 9.0442 |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 24.06 | 1.03 |
| Еўра | 2.6100/2.7100 | 2.6600/2.7600 |
| Долар ЗША | 2.3400/2.4100 | 2.3800/2.4500 |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 24.06 | 1.03 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 20,00 | 20,80 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | 3,25 |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,80 | 7,60 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | 9,50 |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | 5,20 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,20 | 6,30 |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 10,50 | 10,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,80 | 16,90 |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,90 | 2,35 |
| Рыс, 0,8 кг | 1,50 | 2,40 |
| Алей, 1 л | 1,79 | 3,00 |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,90 | 4,80 |
| Маянэз, 400 г | 2,30 | 2,15 |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | 1,50 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,85 | 1,60 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | 1,80 |
| Агуркі, 1 кг | 2,00 | 1,80 |
| Бульба маладая, 1 кг | 0,90 | 1,20 |
| Буракі маладыя, 1 кг | 2,00 | 1,30 |
| Капуста, 1 кг | 1,00 | 0,90 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | – |
| Морква, 1 кг | 1,50 | 1,95 |
| Памідоры, 1 кг | 3,90 | 3,50 |
| Перац, 1 кг | 6,80 | 6,90 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,50 | 1,30 |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | 6,50 |
| Абрыкосы, 1 кг | – | 4,20 |
| Апельсіны, 1 кг | 5,00 | 4,30 |
| Бананы, 1 кг | 3,50 | 2,80 |
| Вінаград, 1 кг | 6,00 | 7,50 |
| Грушы, 1 кг | 3,90 | – |
| Ківі, 1 кг | 5,50 | 7,80 |
| Клубніцы, 1 кг | 12,00 | 7,00 |
| Лімон, 1 кг | 4,90 | 4,50 |
| Мандарыны, 1 кг | 3,00 | 5,90 |
| Нектарыны, 1 кг | – | 5,90 |
| Персікі, 1 кг | 6,00 | 5,50 |
| Чарэшні, 1 кг | 12,00 | 6,90 |
| Яблыкі, 1 кг | 3,50 | 2,50 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 15,00 | 15,00 |
| Сала, 1 кг | 13,00 | 13,00 |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | 12,00 |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | 7,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | 3,00 |

## Пакуль гаспадара не было ў кватэры, загарэлася пральная машына

МАЛАДЗЕЧНА

25 чэрвеня ў 17:10 у цэнтр аператыўнага ўпраўлення Маладзечанскага ГРАНС ад грамадзяніна паступіла паведамленне пра дым з акна кватэры шматкватэрнага дома на вуліцы Маўчанскага. Жыхароў не эвакуіравалі, канцэнтрацыя дыму была нязначная, паведамілі ў ГРАНС Маладзечна.

Пасля прыбыцця да месца выкліку работнікі МНС устанавілі, што ідзе чорны дым з акна на чацвертым паверсе. Гаспадара ў кватэры не было. Патрапіўшы ў кватэру праз адкрыты балкон, ратавальнікі ўбачылі, што гарыць пральная машына.

Агонь знішчыў пральную машыну, пашкодзіў столь, закурыў сцены ў кватэры. Гаспадар паведаміў, што ён уключыў пральную машыну і сышоў па сваіх справах.

Прычына пажару высвятляецца. Разглядаюць парушэнне правілаў эксплуатацыі электрасетак і электраабсталявання, а менавіта кароткае замыканне электраправодкі пральнай машыны.

ГРАНС Маладзечна звяртае ўвагу, што гэта ўжо трэці выпадак загарання пральнай машыны на Маладзечаншчыне ад пачатку года. Яны могуць загарэцца з-за дрэннай якасці зборкі і матэрыялаў, з-за доўгай эксплуатацыі, а таксама калі за імі няма належнага догляду.

Няўважлівасць уладальнікаў – таксама адзін з фактараў. Перад тым, як машына загарыцца, адчуваецца пах гару, бачны дым, чутныя патрэскванні. Менавіта таму нельга пакідаць пральную машыну без нагляду, сыходзячы з дома або на ноч.

Калі вы адчулі пах гару, убачылі дымок і іскры з пральнай машыны, адключыце яе ад сеткі. Калі відаць полымя, то накрыйце тэхніку коўдрай. Не тушыце падпаленую і падлучаную да электрычнасці машыну вадой. Калі разумееце, што самастойна не спраўляецеся, выклікайце неадкладна экстранную службу 101.

**Аддзел інфармацыі.**

## Загінуў матацыкліст

АСТРАВЕЦ

Раніцай 25 чэрвеня паміж Астраўцом і Гудагаем сутыкнуліся легкавы аўтамабіль і матацыкл. Аварыя адбылася каля 7:30 на дарозе Р48 Варона-Ашмяны-Юрацішкі-Іўе.

Кіроўца «Таёты», 40-гадовы астраўчанін, пры павароце налева, на Піянерную базу Беларускай АЭС, не саступіў дарогу матацыклу «Кавасакі», які рухаўся па сустрэчнай паласе.

За рулём матацыкла быў 31-гадовы астраўчанін. У выніку ДТЗ апошні ад атрыманых траўмаў памёр у Астравецкай цэнтральнай раённай клінічнай бальніцы. Пасажырка матацыкла, 28-гадовая жыхарка аграгарадка Палушы, з цяжкімі траўмамі шпіталізаваная ў бальніцу. Кіроўца і пасажыр легкавога аўтамабіля не пацярпелі.

**Паводле УУС Гродна.**

## Мотаблок не саступіў дарогу аўтамабілю

ВАЛОЖЫН

Аварыя здарылася 25 чэрвеня, каля сямі гадзін вечара, у вёсцы Камень.

Мясцовы жыхар ехаў на мотаблоку. Падчас павароту налева ён не саступіў дарогу аўтамабілю «Ланд-Ровэр». У выніку мотаблок і аўтамабіль сутыкнуліся.

Кіроўцу мотаблока з траўмамі адвезлі ў бальніцу.

**Паводле МУС.**

# Двух выратавалі, двое патанулі

ВІЛЕЙКА

**У мінулыя выхадныя, 27 і 28 чэрвеня, на вадаёмах Вілейшчыны выратавалі двух мужчын. А яшчэ двое патанула. Пра гэта карэспандэнту расказала старшыня Вілейскай раённай арганізацыі Асвод Алена Гракові.**

Вілейскае вадасховішча вабіць адпачывальнікаў у спёку. Але пра бяспеку забываць не варта.

Першы трагічны выпадак здарыўся 27 чэрвеня на возеры ў вёсцы Латыгаль, што на Вілейшчыне. 29-гадовы мясцовы жыхар вырашыў акунуцца. Зайшоў у ваду і трапіў у яму. Вылезці не змог.

28 чэрвеня патануў мужчына ў Вілейцы. Ён пайшоў ставіць сеткі на возеры «Гусінка», што каля Вілланінага хутара. 54-гадовы рыбак залез у ваду і стаў тануць. Выратаваць яго не змаглі.

А двух мужчын выратавалі на Вілейскім вадасховішчы 27 чэрвеня. Каля дзевяці вечара выратавальнікам паведамілі пра тое, што па Вілейскім вадасховішчы плыве мужчына. Як даведаліся выратавальнікі, чалавек выплыў з Рабуні і плыў да кемпінга «Рыбчына». Аднак, прыкладна на сярэдзіне вадасховішча, пачаўся шторм. Выратавальнікі падплылі да мужчыны на катары, дасталі яго, перавезлі на бераг.

– Мужчына быў у нецвярозым стане, самастойна праплыў даволі шмат, каля двух кіламетраў прыблізна. Калі выратавальнікі дасталі яго, сказаў «дзякуй», – расказала **Алена Гракові**.

Толькі разабраліся з адным выратаваным, паведамілі пра тое, што рыбаку ў раёне Навасёлак таксама патрэбная дапамога. Мужчына рыбачыў з лодкі. Але ў нейкі момант у ёй спусцілі балоны. Мужчыну выратавала тое, што ўсё здарылася недалёка ад былога вострава. Выратавальнікаў ён чакаў, стоячы па пояс у вадзе. Яго даставілі на бераг разам з лодкай.

Па словах Алены Гракові, за мінулы тыдзень работнікі Асвод зрабілі 110 папярэджанняў адпачывальнікам – за плаванне на матрацах і ныранне з іх, за знаходжанне на вадаёмах непаўналетніх дзяцей без бацькоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## Суд вынес прысуд кіроўцу маршруткі, які ўчыніў смяротнае ДТЗ

АШМЯНЫ

Кіроўца маршруткі, які здзейсніў смяротнае ДТЗ у Ашмянскім раёне, атрымаў тры гады калоніі-пасялення.

Як паведамілі ў прэс-службе суда, мужчыну прызналі вінаватым па частцы 2 артыкула 317 Крымінальнага кодэкса Беларусі – парушэнне ПДР асобай, якая кіравала транспартным сродкам, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека і прычыненне менш цяжкага цялеснага пашкоджання.

Суд прысудзіў яго да чатырох гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ва ўмовах пасялення з пазбаўленнем права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем усімі відамі транспартных сродкаў, на 5 гадоў.

У сувязі з амністыяй тэрмін скарацілі на год.

Нагадаем, аварыя адбылася 10 кастрычніка, каля 15 гадзін, на трасе Мінск – Ашмяны – мяжа Літоўскай Рэспублікі. Пры абгоне маршрутка выехала на сустрэчную паласу і сутыкнулася з аўтамабілем «Рэно». Пасля маршрутка з'ехала ў кювет.

У выніку ДТЗ 18-гадовая дзяўчына-пасажырка маршруткі атрымала цяжкія траўмы, ад якіх праз некалькі дзён памерла ў бальніцы. Яшчэ два пасажыры атрымалі менш цяжкія цялесныя пашкоджанні.

**Паводле tut.by.**

## Мужчына патануў у Нарачы

МЯДЗЕЛ

Трагічнае здарэнне адбылося 27 чэрвеня, у суботу. Трое мужчын паплылі на лодцы па возеры. Пачалі купацца. 31-гадоваму мужчыну стала дрэнна. Ён патануў, паведамляюць ва ўпраўленні Следчага камітэта. Цела тапельца знайшлі выратавальнікі на адлегласці 800 метраў ад берага.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Калі не прыжыліся саджанцы, пачалі ствараць сваю гаспадарку

МАЛАДЗЕЧНА

**Калі няма якаснага прадукту на рынку, бізнесмен разумее, што гэта незанятая ніша.**

Менавіта так стварылі фермерскую гаспадарку «Вятлоў» у Дамашах на Маладзечаншчыне. Цяпер **Ігар Вятлоў** узначальвае гаспадарку, а жонка **Вольга** працуе галоўным бухгалтарам. Гаспадарка, якая раскінулася на плошчы ў сто гектараў, пачалася з некалькіх саджанцаў.

### Пачалі з некалькіх саджанцаў

Ігар нарадзіўся ў Залессі Смаргонскага раёна, Вольга – у Казахстане. Маладая сям'я некалькі разоў мяняла месца жыхарства, пакуль не асела ў Дамашах. Гаспадар вырашыў пасадзіць на ўчастку некалькі саджанцаў, але ніводны з іх не прыжыўся. Зразумеў, што гэта праблема, пачаў займацца дрэвамі сам. Спярша для ўласнага ўчастка. А пасля ў яго пачалі замаўляць саджанцы іншыя.

Гаспадары ўбачылі, што попыт расце з кожным годам, справа выгадная, а збываць атрымліваецца без праблем. Так і пачалі развіваць сваю справу. Фермерскую гаспадарку запусцілі ў 2003 годзе.

### Як разрасліся

Цяпер гаспадарка займае 100 гектараў. 70 з іх – сад, два гектары клубніц. Сад прыносіць у асноўным яблыкі і грушы, якія гаспадарка экспартуе пераважна на Расію. Летась экспартавалі 700 тон пладоў з сада.

«Вятлоў» прадае 150-200 тысяч саджанцаў за год. Гэта яблыкі, грушы, слівы, персікі, абрыкосы, агрэст, вішні, чарэшні, парэчкі.

Тут вырошчваюць і свае саджанцы, і трымаюць матачнікі.



Фота забяспечана Вольгай ВЯТЛОВАЙ.

У грушавым садзе гаспадаркі – галоўны бухгалтар Вольга Вятлова (справа) і брыгадзір Марына Гурыновіч.

Кіраўніцтва прыйшло да высновы, што больш надзейна весці дрэва ад самага пачатку.

### Знайсці работнікаў няпроста

Спачатку ўсімі справамі займаліся Вольга і Ігар – самі прышчэплівалі дрэвы, палолі, даглядалі ўчастак. Але з кожным годам аб'ёмы нарошчвалі і да справы далучалі памочнікаў. Цяпер у штаце працуюць шэсць чалавек. Гаспадары кіруюць працэсам з аграномам і кантралююць усю працу, аграном размяркоўвае задачы для брыгадзіраў.

У сезон запрашаюць на працу работнікаў па дагаворы падраду.

У час збору яблык на гаспадарцы можа працаваць і 50-60 чалавек. Сезонныя работнікі часта замяняюцца – праца ў садзе фізічна цяжкая. Напрыклад, цяпер у сезон клубніц за рабочы дзень неабходна пад сонцам сабраць 50 кілаграмаў. За гэта работнік зарабляе 20 рублёў. Такая праца не для кожнага, таму некаторыя працуюць не больш за адзін дзень.

Надзейныя і працавітыя работнікі ў вёсцы – знаходка. Адшукаць добрага работніка на пастаянную аснову – адзін з выклікаў для кіраўнікоў.

### Калі патрэбная падтрымка

Вольга расказвае, што фермерскія гаспадаркі могуць разлічваць на сур'ёзную падтрымку ад дзяржавы. Яны ўдзельнічаюць у праграмах развіцця, што істотна дапамагае развівацца. Напрыклад, па адной праграме набылі агароджу, тэхніку ў лізінг. Іншым разам ім выдзелілі дастаткова ўгнаенняў і сродкаў для абароны раслін.

Надзейным партнёрам у бізнесе з'яўляецца «Белаграпрамбанк». Вольга расказала, што двойчы звярталіся па крэдыты менавіта ў гэты банк.

> **Для бізнесменаў важна, што працэдура займала мінімум часу – работнікі банка самі рыхтавалі дакументы.**

Па першым крэдыце набылі халадзільнае абсталяванне ў сховішча, аўтамабіль для перавозкі людзей, сельскагаспадарчую тэхніку. Па другім – халадзільнае абсталяванне ў другую камеру, сродкі для апрацоўкі раслін.

Зручнай прапановай быў овердрафт ад «Белаграпрамбанка» – магчымасць карыстацца сродкамі, калі няма грашовых паступленняў. Гэта стала яшчэ адным фактарам, які дапамагае штогод развівацца фермерскай гаспадарцы.

*Старонка падрыхтаваная ў межах сумеснага праекта «Будуем мару з «Белаграпрамбанкам».*

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Рэно-Кліа, 1997 г.в., 1,2 бензін, прабег 158 тысяч км. Т. (8-033) 6649242.*

• Сітраэн ZX, 1993 г.в., 1,4 бензін, на хаду. Т. Вэлком (8-044) 4522441.*

• Форд-Гэлаксі, 1,9 TДІ, 2001 г.в., 85 кв., 115 конскіх сіл. Цана дагаворная. Маладзечна. Т. (8-029) 5717386.*

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі да Аўдзі-80, 1985 г.в. Т. (8-029) 5024571.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3265724, (8-033) 3631161.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Матацыкл стары К-750, Ява, Мінск, Іж на запчасткі. Т. (8-029) 6153865.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1,5-пакаёвая кватэра ў п. Беразінскае Маладзечанскага раёна, 21,5 тыс. рублёў. Т. (8-0176) 725959, (8-029) 2799029.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 6 мікрараён, плошча 38,9 кв.м, лоджыя. Т. МТС (8-029) 5600627.*



• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Першамайскай. Т. (8-029) 8600657.*

• Дача, участак 10 сотак, 4 км ад Смаргоні, за 200 м – возера. Т. (8-033) 3591382.*

• Дом у в. Добрая Зямля Валожынскага раёна. Чыгунка – 2,5 км. Рака, лес – 100 м. Т. (8-033) 3142808, (8-029) 2795589.

### ЗДАМ

• Гараж 6х9 м у ГК №33 па вул. Міру ў Маладзечне. Т. (8-029) 5753932.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселле, юбілей, карпаратыў. Музычнае афармленне. Вядучы. ІП Язневіч Л.М. УНП 692245902 Т. (8-044) 5945440.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасцїл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. Кансультацыя бясплатная. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, установка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ДЭМАНТАЖ**. ІП Буслаўскі А.І. УНП 691292601 Т. (8-029) 5417847, (8-029) 3057579.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ. АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЕЎ**. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Вулей новы. Т. (8-029) 9950326.*

• Два вуллі дадамскія на 18 рамак у камплекце, дыстылятар, флягі малочныя 40 л, ёмістасці бляшаныя для кансервавання. Званіць пасля 20.00. Т. (8-033) 6317326.*

• Козы дойныя і козлікі. Т. (8-029) 3597375. Таццяна.



• Пасека, 9 вуллёў. Цана дагаворная. Вілейскі раён. Т. (8-029) 5717386.*

**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), падагравальнік для сумесі Philips Avent (40 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Тэл. (8-033) 3668181.*

• Калёсы на гумовым ходзе, збруя ў падарунак. Т. (8-029) 5737741, (8-01771) 22380.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Арганізацыі ТАА «Мясныя рэзервы» патрабуецца вадзіцель катэгорыі ВС з досведам працы. Дастаўка прадукцыі на гандлёвыя аб'екты. Поўны сацыяльны пакет. З/плата па выніках сумоўя. Т. (8-044) 5444170.*

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Разборка старых хлеўчукоў, дамоў, печаў. Т. (8-025) 9227728.

# Цяпер можна набыць смарт-білет і праязны па QR-коду



Так выглядае аўтобус у Вілейцы, дзе можна разлічыцца па QR-коду.

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта паведамляюць у Цэнтры інфармацыі і грамадскіх сувязяў Белінвестбанка.**

Тэхналогія продажу і праверкі білетаў у электронным выглядзе стала даступная жыхарам Вілейкі. Разлічыцца за білет у адзін клік проста ў салоне, выкарыстоўваючы толькі QR-код і смартфон, дае магчымасць мабільны плацежны сэрвіс «Аплаці». Можна будзе набыць і смарт-праязныя. Вілейка – першы горад, не лічачы пілотнага Барысава, з якога пачынаецца распаўсюджванне тэхналогіі ў Мінскай вобласці.

На аўтобусах, дзе ёсць такая паслуга, – спецыяльныя апазнавальныя знакі. Гэта налепка «Аплаці. Транспарт» на аўтобусе звонку. А ўнутры – спецыяльныя налепкі з QR-кодам, з дапамогай якіх можна набыць электронны білет на праезд.

Пасля таго, як пасажыр навядзе сканер у мабільным прыкладанні «Аплаці» на сваім тэлефоне на QR-код у салоне аўтобуса, білет у электронным выглядзе адлюструецца на экране смартфона. Тут будзе паказаная ўся неабходная інфармацыя: нумар білета і аўтобуса, яго прыналежнасць аўтобуснаму парку, дата і час пакупкі, а таксама кошт праязнога дакумента.

Па словах стваральнікаў, мабільнае прыкладанне добра распазнае карцінку на адлегласці да двух метраў.

**Аддзел інфармацыі.**

# Што трэба ведаць, каб паляваць пад вадой

**Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства дазваляюць падводнае паляванне.**

Для таго, каб законна паляваць пад вадой, неабходна мець пасведчанне падводнага паляўнічага. Яго можна атрымаць у Беларускай федэрацыі падводнага спорту. Там папросяць шэраг дакументаў, а таксама трэба будзе аплаціць уступны і штогадовы ўнёскі. Акрамя таго, неабходна мець членскі білет Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў з пазнакай аб выплаце штогадовых членскіх унёскаў (пры пагружэннях у рыбалоўныя ўгоддзі фонду запасу).

Пры падводным паляванні законам забараняецца выкарыстоўваць акваланг і іншыя аўтаномныя дыхальныя прыборы. А стрэльба і пісталет павінны страляць гарпуном з наканечнікам, які мае не больш за пяць зубцоў. Прычым карыстацца зброяй можна толькі пад вадой, стральба з борта лодкі або з берага катэгарычна забароненая.

Неабходна ведаць, што існуе шэраг вадаёмаў фонду запасу, у якіх нават для членаў Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў устаноўленая забарона на падводнае паляванне.

Пералік такіх месцаў рэгламентаваны пастановай Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь ад 19.05.2014 №22 «Аб пераліку рыбалоўных угоддзяў». У апошняй яго рэдакцыі (Пастанова Мінсельгасхарчу 24.01.2019 №7) абноўлены пералік рыбалоўных угоддзяў фонду запасу, дзе дзейнічаюць абмежаванні па спосабах лоўлі рыбы.

З поўным пералікам такіх вадаёмаў, у якім больш за трыста аб'ектаў рыбалоўных угоддзяў, можна азнаёміцца на сайце Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету або на Нацыянальным прававым партале.

**Васіль ПАЎЛАЎ,**
**Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету.**

# Чаму важны персаніфікаваны ўлік

**Адной з асноўных і важнейшых задач фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны з'яўляецца арганізацыя і вядзенне індывідуальнага (персаніфікаванага) уліку звестак аб застрахаваных асобах для мэтаў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання.**


Персаніфікаваны ўлік удасканаліў працы ў галіне сацыяльнага страхавання.

Ад студзеня 2003 года на тэрыторыі Беларусі ўвялі ў дзеянне Закон «Аб індывідуальным (персаніфікаваным) уліку ў сістэме дзяржаўнага сацыяльнага страхавання».

Сутнасць персаніфікаванага ўліку ў тым, што асобна для кожнага грамадзяніна ўлічваецца яго права на працоўную пенсію, якую ён зарабляе сам. За ўсе гады яго працы ад 1 студзеня 2003 года. Вядзецца ўлік звестак пра перыяды працоўнай дзейнасці, работы па грамадзянска-прававых дагаворах, прадпрымальніцкай, творчай і іншай дзейнасці, штомесячным заробку і іншых выплатах, на якія налічваліся і з якіх выплачваліся страхавыя ўнёскі.

Пры гэтым ён можа адсочваць дынаміку працэсу, атрымліваць патрэбныя звесткі, своечасова патрабаваць унясення паправак у выпадку якой-небудзь неадпаведнасці і недакладнасці. Дзякуючы персаніфікаванаму ўліку кожны грамадзянін становіцца актыўным стваральнікам сваёй пенсійнай будучыні. Штогод тысячы застрахаваных асоб карыстаюцца правам атрымаць інфармацыю са свайго асабістага рахунка.

З дапамогай персаніфікаванага ўліку вырашаецца задача па жорсткай увязцы памеру пенсіі з заробкам, з якога на працягу працоўнай дзейнасці выплачваліся страхавыя ўнёскі. Значна спрашчаецца і паскараецца працэдура прызначэння і пераразлікі пенсій, пазбаўўшы грамадзян ад складанасці, звязанай са зборам шматлікіх дакументаў пра стаж і заробкі. Персаніфікаваны ўлік дазваляе забяспечыць дакладнасць звестак аб стажы і заробку.

Ад 01.01. 2003 кожнаму, хто працуе, адкрыты індывідуальны асабовы рахунак, выдадзенае пасведчанне сацыяльнага страхавання.

Дакументам, які пацвярджае той факт, што застрахаванай асобе адкрыты IAP, з'яўляецца наяўнасць у яго «страхавога пасведчання дзяржаўнага сацыяльнага страхавання». Пасведчанне сацыяльнага страхавання павінна быць у кожнага грамадзяніна, які працуе, уключаючы працуючых пенсіянераў і навучэнцаў, што падзарабляюць летам, незалежна ад таго, якога роду працы яны выконваюць у арганізацыі. Гэта праца па асноўным месцы работы або па сумяшчальніцтве, праца па грамадзянска-прававых дагаворах або па накіраванні цэнтра занятасці, альбо гэта працы, якія выконваюць асуджаныя.

Пры змене пашпартных дадзеных работніку неабходна паведаміць пра гэта ў аддзел кадраў, каб працадаўца своечасова мог падаць змены і IAP утрымліваў актуальную інфармацыю.

У выпадку страты пасведчання сацыяльнага страхавання або псавання, работнік мае права патрабаваць яго аднаўлення, а калі ў дадзены момант ён ужо не працуе, то можа звярнуцца ў раённы аддзел фонду для аднаўлення.

Ад 1 студзеня 2003 года ў адпаведнасці з Законам «Аб пенсійным забеспячэнні» стаж і заробак для прызначэння пенсіі пацвярджаецца выпіскай з індывідуальнага асабістага рахунка застрахаванай асобы, якая выдаецца раённым і гарадскім аддзеламі фонду.

Дзякуючы выкарыстанню звестак персаніфікаванага ўліку забяспечваецца кантроль за расходаваннем сродкаў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання. Штоквартальна ў выніку апрацоўкі спісаў атрымальнікаў пенсій, атрымальнікаў дапамог па доглядзе інвалідаў 1 групы, за састарэлымі, якія дасягнулі 80-гадовага ўзросту, дзецьмі-інвалідамі да 18 гадоў знаходзяць пенсіянераў, якія працавалі без апавяшчэння органаў па працы, занятасці і сацыяльнай абароне. Гэтым парушалі пенсійнае заканадаўства.

Дадзеныя персаніфікаванага ўліку выкарыстоўваюць і пры праверцы абгрунтаванасці выплат дапамог па беспрацоўі.

**Маладзечанскі раённы аддзел Мінскага абласнога ўпраўлення фонду сацыяльнай абароны.**

# Маладзечанца асудзілі на 30 базавых

## Ён сцвярджае, што аднакурснік Аляксандра Лукашэнкі

**26 чэрвеня суд Маладзечанскага раёна асудзіў Канстанціна Пачэпку па артыкуле 23.34 Закона аб масавых мерапрыемствах на 30 базавых велічынь. Пачэпку 71 год.**


Падчас суда над Канстанцінам Пачэпкам.

У віну яму паставілі парушэнне Закона аб масавых мерапрыемствах, што выявілася ў актыўным удзеле сумеснага масавага знаходжання грамадзян у загадзя ўстаноўлены час і ў загадзя вызначаным грамадскім месцы без дазволу райвыканкама.

Пасяджэнне вяла суддзя **Інэса Южык**. Сведка супрацоўнік Маладзечанскага РАУС **Віталь Мурза** на судзе расказаў наступнае.

2 мая паступіла каманда ад кіраўніцтва РАУС аб неабходнасці выхаду на ніжнюю пляцоўку каля амфітэатра. Па інфармацыі, якой мы валодалі, там планавалі сабрацца грамадзяне абмяркоўваць пытанні, якія тычацца інтарэсаў дзяржавы.

Калі прыбылі на месца да 12 гадзін 3 мая, то каля амфітэатра было каля 14 грамадзян. У тым ліку Канстанцін Пачэпка. Людзі размаўлялі, жэстыкулявалі. Па мімічы было зразумела, што гавораць паміж сабой. Частка з іх была ў масках. Быў на адлегласці ад іх у 50-300 метрах. Праводзіў фота- і відэадакументаванне. Па заканчэнні мерапрыемства, каля 13:30, людзі разышліся.

Жыхар Насілава Маладзечанскага раёна Канстанцін Пачэпка быў у гэтым коле, размаўляў, удзельнічаў у размовах. Пра што канкрэтна размаўлялі, не чуў. Па нашых дадзеных, сход быў несанкцыянаваны Маладзечанскім райвыканкамам.

Пачэпка ўдакладніў, пра што на гэтым несанкцыянаваным мерапрыемстве ён гаварыў. Дадаў, што гаварыць мог толькі пра свае праблемы. Што ніяк не можа закранаць дзяржаўных інтарэсаў. І што сярод іншых людзей ніхто не гаварыў пра дзяржаўныя інтарэсы. Пачэпка ўдакладніў, што расказваў пра свой боль, каб надаць яму галоснасці, каб яго пачулі. І што дабіваецца, каб гэта пачуў яго аднакурснік **Аляксандр Лукашэнка**.

У матэрыялах справы па выніках маніторынгу інтэрнэта супрацоўнікам міліцыі было інфармацыйнае паведамленне з тэлеграм-канала «Маладзечна для жыцця». Паводле яго была прызначаная сустрэча на 12 гадзін 3 мая ў парку Маладзечна.

Да адміністрацыйнай адказнасці раней Пачэпку прыцягвалі толькі за парушэнне правілаў дарожнага руху.

На фотаздымку з той падзеі сябе пазнаў. Іншых прысутных не пазнаў.

Пасля прагляду відэа, дзе жыхар Насілава сябе пазнаў, суддзя спыталася, чым маглі дапамагчы прысутныя на ім маладыя людзі ў вырашэнні праблемы. Пачэпка адказаў, што актыўныя людзі маюць сувязі, знаёмых, якія маглі б дапамагчы.

Суд прызнаў Канстанціна Пачэпку вінаватым і прызначыў пакаранне ў выглядзе штрафу памерам 30 базавых велічынь, што складае 810 рублёў.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# «Хай праверацць факты збіцця, ціску, магчымага прымянення зброі»

## Затрыманы 19 чэрвеня маладзечанец падаў заяву ў пракуратуру

МАЛАДЗЕЧНА

**30 чэрвеня, затрыманы падчас «ланцуга салідарнасці» 19 чэрвеня ў Маладзечне Мікола Алейнік, падаў заяву ў пракуратуру.**

– Падаў заяву адносна некалькіх фактаў. Усяго шэсць пунктаў. Маё збіццё, тое, што мяне амапаўцы схапілі і зацягнулі ў бус. Таксама хай разгледзяць факты прымусу і ціску на мяне падчас падпісання папер у РАУС. І факт магчымага прымянення зброі, зафіксаваны на фотаздымках.

Яшчэ адзін пункт – несвоечасовае аказанне медыцынскай дапамогі ў РАУС.

**По словах Міколы, медыкаў паклікалі толькі тады, калі пабачылі, што яму зусім дрэнна.**

– Цяпер хаджу ў паліклініку, праходжу медыцынскае абследаванне, нашу на целе спецыяльны апарат для даследавання сэрца. Пасля ўсіх падзей самаадчуванне значна пагоршылася, – падзяліўся Мікола.

Заяву ў пракуратуры прынялі.

Хлопец таксама распавёў, што разам з адвакатам яны абскардзілі вынесены ў Маладзечанскім судзе прыгавор – падалі скаргу ў Мінскі абласны суд. Цяпер чакаюць вынікаў.

Нагадаем, што 24 чэрвеня маладзечанца Міколу Алейніка прызналі вінаватым па артыкулах 23.34 і 23.4 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях Рэспублікі Беларусь. Канчатковае пакаранне – 15 сутак з моманту затрымання.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Мікола Алейнік у судзе.

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

## Якія фільмы варта паглядзець, каб палепшыць нават самы пануры на свеце вечар



Фота empireonline.com.

Кадр з фільма «Адзін выдатны дзень».

**Бывае, хочацца прыйсці дадому пасля працы, уключыць лёгкі фільм, але пры гэтым недурное кіно, і забыць пра ўсё на свеце на пару гадзін.**

Якраз для такога выпадку «Рэгіянальная газета» сабрала некалькі не самых знакамітых карцін з добрымі рэйтынгамі. Глядзець іх лёгка і цікава, ды яшчэ і застанецца над чым падумаць пасля прагляду.

### «Тарыф на месячнае святло»

Кара сутыкнулася з вечнай дылемай многіх дзяўчат пасля першага спаткання: тэлефанаваць ці не тэлефанаваць першай? Сяброўка, якая ведае пра мужчын усё і нават больш, запэўнівае, што тэлефанаваць нельга і мужчына павінны сам праявіць ініцыятыву. Сама Кара хоча проста быць сабой і паступаць так, як загадае ёй сэрца. Як жа ёй быць?

Фільм поўны дыялогаў, разважанняў і перажыванняў, а яшчэ прыадчыняе заслону вечнага пытання «Што адбываецца ў галаве ў жанчыны?» Добрая карціна, якую захочацца перагледзець яшчэ не раз.

### «Хоць раз у жыцці»

Аднойчы ў Нью-Ёрку сустрэліся дзве адзіноты: ён – легенда шоу-бізнесу, яна – былая рок-зорка і спявачка. У іх няма ні грошай, ні музыкаў, але якое гэта мае значэнне, калі жаданне тварыць мацней за магчымасці і хітрыкі лёсу?

У гэтага фільма выдатны саўндтрэк і цёплая, утульная атмасфера. Акцёрскі склад падабраўся выдатны: у галоўных ролях **Кіра Найтлі** і **Марк Руфала**. Ды і галоўная дэкарацыя фільма, горад Нью-Ёрк, зрабіла сваю справу. Творчым людзям спадабаецца ў першую чаргу.

### «Дробка перцу»

«У жыцці, як і ў ежы, заўсёды знойдзецца месца рэзкіх заставак» – вось жыццёвая філасофія сям'і, у якой вырас хлапчук па імені Фаніс. Ён стаў першакласным поварам, з'ехаў у іншую краіну, але аднойчы задумаўся: а ці дастаткова спецый у яго ўласным жыцці?

Вельмі душэўная турэцка-грэцкая карціна пра сям'ю, пра сталенне, пра тугу па родным доме, пра каштоўнасці і людзей.

### «Адзін выдатны дзень»

Гэта шчырая і светлая камедыя распавядае пра гісторыю знаёмства Джэка і Мэлані. У той дзень усё пайшло наперакос: іх дзеці спазніліся на школьную экскурсію, а ў абаіх запланаваная куча спраў і клопатаў. Можа, героям атрымаецца не толькі выкруціцца з праблем, але і нечакана здабыць каханне?

Дуэт маладых **Мішэль Пфайфер** і **Джорджа Клуні** наўрад ці зможа пакінуць некага абыякавым, ды і сам фільм глядзіцца літаральна на адным дыханні.

### «Начныя гульні»

Кожны тыдзень тры парачкі гуляюць у «начныя гульні»: разгадваюць галаваломкі, дастаюць настольныя гульні і весела праводзяць час разам. Але аднойчы ў кампаніі з'яўляецца хлопец, які прапануе значна больш цікавую і небяспечную гульню.

У карціне поўна гумару і дынамікі, сюжэт не дазволіць засумаваць, ды і персанажы трапіліся вельмі цікавыя. Займальнае відовішча, якое адназначна пакіне пасля сябе шмат эмоцый.

**Гэтыя фільмы можна паглядзець у анлайн-кінатэатрах у інтэрнэце.**

Падрыхтавала
Настасся УТКІНА.



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 6 ИЮЛЯ

**7.00, 15.35, 17.25, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.45** «Мульт-парад».
**7.30, 15.40, 17.20, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«30 НО 17».**
**8.40, 20.05** Т/с **«ЛЕНИНГРАД 46».**
**10.20** Х/ф **«КРЕПКИЙ ОРЕШЕК».**
**12.40, 17.30** Т/с **«СРЕДИ КАННИБАЛОВ».**
**14.30** Т/с **«О, МОЯ ВЕНЕРА!».**
**15.55** Х/ф **«ХРОНИКА».**
**19.15** «Суперлото».
**19.50** «Удачные советы».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ПОСЛЕДНЯЯ ЛЮБОВЬ НА ЗЕМЛЕ».**
**22.50** Х/ф **«МРАЧНЫЕ ТЕНИ».**
**0.55** «Погода» + Аэровидео.

### ВТОРНИК, 7 ИЮЛЯ

**7.00, 15.25, 17.25, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.35** «Мульт-парад».
**7.30, 15.30, 16.05, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«30 НО 17».**
**8.40, 19.15** Т/с **«ЛЕНИНГРАД 46».**
**9.30** Д/ф.
**10.30** Х/ф **«МРАЧНЫЕ ТЕНИ».**
**12.30, 17.30** Т/с **«СРЕДИ КАННИБАЛОВ».**
**14.20** Т/с **«О, МОЯ ВЕНЕРА!».**
**15.45** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**16.10** Х/ф **«БЕГИ, ЛОЛА, БЕГИ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«МАЧЕХА».**
**23.20** Х/ф **«НОСИТЕЛИ».**
**0.45** «Погода» + Гороскоп (июль).

### СРЕДА, 8 ИЮЛЯ

**7.00, 17.25, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**7.30, 15.35, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«30 НО 17».**
**8.40, 19.15** Т/с **«ЛЕНИНГРАД 46».**
**10.15** «Готовь как шеф».
**10.40** Х/ф **«МАЧЕХА».**
**12.45, 17.30** Т/с **«СРЕДИ КАННИБАЛОВ».**
**14.30** Т/с **«О, МОЯ ВЕНЕРА!».**
**15.30** «Погода».
**15.40** «Мульт-парад». «Шахерезада».
**16.05** Х/ф **«РЕЗНЯ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ОКЕАН».**
**23.40** Х/ф **«ТЕЛЕФОННАЯ БУДКА».**
**1.05** «Погода» + Аэровидео.

### ЧЕТВЕРГ, 9 ИЮЛЯ

**7.00, 15.00, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.05** «Мульт-парад».
**7.30, 20.55** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«30 НО 17».**
**8.40** Т/с **«ЛЕНИНГРАД 46».**
**10.15** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа.
**10.40** Х/ф **«ПОСЛЕДНЯЯ ЛЮБОВЬ НА ЗЕМЛЕ».**
**12.20, 17.35** Т/с **«СРЕДИ КАННИБАЛОВ».**
**14.00** Т/с **«О, МОЯ ВЕНЕРА!».**
**15.30** Х/ф **«ТУПОЙ И ЕЩЕ ТУПЕЕ».**
**17.20** «Фешн is my профешн».
**19.10** «Погода».
**19.15** Т/с **«ТАЙНА КУЛОНА».**
**21.00** «Вечарніца».
**21.20** Х/ф **«БОЛЬШОЙ».**
**23.10** Х/ф **«ОБРАТНЫЙ ОТСЧЕТ».**
**0.45** «Погода» + Аэровидео.

### ПЯТНИЦА, 10 ИЮЛЯ

**7.00, 15.15, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.25** «Мульт-парад».
**7.30, 15.20, 20.55** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«30 НО 17».**
**8.40, 19.15** Т/с **«ТАЙНА КУЛОНА».**
**10.30** Х/ф **«БОЛЬШОЙ».**
**12.20, 17.30** Т/с **«СРЕДИ КАННИБАЛОВ».**
**14.10** Т/с **«О, МОЯ ВЕНЕРА!».**
**15.45** Х/ф **«СТАРСКИ И ХАТЧ».**
**19.10, 1.30** «Погода».
**21.00** «Вечарніца».
**21.20** Х/ф **«АГЕНТЫ».**
**23.30** Х/ф **«ПОЕЗДКА В АМЕРИКУ».**

### СУББОТА, 11 ИЮЛЯ

**7.00, 15.30, 21.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**8.50, 17.30** «Приколы 13-й школы».
**8.55** «Признайся, что вкусно!». Детская кулинарная программа (премьера).
**9.15** Х/ф **«ПРОПАВШИЙ ЖЕНИХ».**
**10.35, 12.10** Т/с **«ДОЧКИ».**
**13.50** Стрим-спектакль «Ну вы даете».
**15.35** «Смотрим всей семьей».
**17.35** Х/ф **«ОСМОСИС ДЖОНС».**
**19.10, 1.40** «Погода».
**19.15** Х/ф **«МЕДОВЫЙ МЕСЯЦ КАМИЛЛЫ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.00** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«КРЕПКИЙ ОРЕШЕК – 3».**
**23.30** Х/ф **«КРЕПКИЙ ОРЕШЕК – 4».**

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 12 ИЮЛЯ

**7.00, 15.00, 16.40, 21.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.05** «Мульт-парад».
**8.20, 16.35** «Приколы 13-й школы».
**8.25** Х/ф **«АНЖЕЛИКА, МАРКИЗА АНГЕЛОВ».**
**10.25** «Готовь как шеф».
**10.45, 12.30** Т/с **«ДОЧКИ».**
**14.10** «Лишний вес у ребенка – что делать».
**16.45** Рубрика «Детектив на экране».
**18.55** Т/с **«КАСЛ».**
**19.35** «Погода».
**19.40** Х/ф **«СЛЕДУЙ ЗА МЕЧТОЙ».**
**21.00** «Вечарніца».
**21.20** Фэнтези «Властелин колец: Братство кольца».
**0.30** «Погода» + Гороскоп (июль) + Аэровидео.



## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 6 ИЮЛЯ

**6.30** Х/ф **«КРОЛИК ПИТЕР».**
**8.10** Х/ф **«УРФИН ДЖЮС И ЕГО ДЕРЕВЯННЫЕ СОЛДАТЫ».**
**10.00** Х/ф **«БОЛЬШОЕ ПУТЕШЕСТВИЕ».**
**11.20** Х/ф **«ЧЕРНАЯ МОЛНИЯ».**
**13.10** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА».**
**15.00** Х/ф **«ЗАЧИНЩИКИ».**
**16.30** Х/ф **«БАБЛО».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** На вячоркі да Фядоркі.
**20.15** Х/ф **«УЛЬТРААМЕРИКАНЦЫ».**
**22.15** Мажорный лад.

### ВТОРНИК, 7 ИЮЛЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Актуально.
**7.40** Квартал 21.
**8.15** Х/ф **«ТРИ БОГАТЫРЯ И НАСЛЕДНИЦА ПРЕСТОЛА».**
**10.05** Х/ф **«СТРАНА ЧУДЕС».**
**12.10** Х/ф **«НУ ЧТО, ПРИЕХАЛИ РЕМОНТ».**
**14.30** Х/ф **«ЗОВ ПРЕДКОВ».**
**16.40** Х/ф **«ПЫШКА».**
**19.15** Иван Купала в Молодечно.
**20.15** Х/ф **«ИСТОРИЯ О НАС».**
**22.15** Мажорный лад.

### СРЕДА, 8 ИЮЛЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Мастерство и фантазия.
**8.15** Х/ф **«НА МОРЕ!».**
**10.00** Х/ф **«ПУТЕШЕСТВИЕ ГЕКТОРА В ПОИСКАХ СЧАСТЬЯ».**
**11.50** Х/ф **«МИЛЛИАРД».**
**13.40** Х/ф **«КОРОЛЕВСТВО ПОЛНОЙ ЛУНЫ».**
**15.35** Х/ф **«ПОВЕЛИТЕЛИ СНОВ».**
**17.20** Х/ф **«НИНДЗЯ ИЗ БЕВЕРЛИ ХИЛЛЗ».**
**19.15** Рядом со звездой.
**20.30** Музыкальная открытка.
**21.20** Протокол.
**22.15** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 9 ИЮЛЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.20** Квартал 21.
**8.15** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ».**
**9.50** Х/ф **«ШПИОН ПО СОСЕДСТВУ».**
**12.15** Х/ф **«ПОДАРОК С ХАРАКТЕРОМ».**
**13.45** Х/ф **«ИЗ ЖИЗНИ ТАЙНЫХ АГЕНТОВ».**
**15.30** Х/ф **«ВСЁ ИЛИ НИЧЕГО».**
**17.10** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ ПЕРЕПОЛОХ».**
**18.50** Волшебная книга МЧС.
**19.30** Протокол.
**20.15** Х/ф **«КОРСИКАНЕЦ».**
**22.30** Мажорный лад.

### ПЯТНИЦА, 10 ИЮЛЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости. Время местное.
**7.20** Протокол.
**8.20** Х/ф **«ХОТТАБЫЧ».**
**12.00** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА».**
**14.05** Х/ф **«ЁЛКИ-5».**
**15.40** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**17.50, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Мастерство и фантазия.
**20.15** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ».**

### СУББОТА, 11 ИЮЛЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.20** Будьте здоровы.
**8.20** Х/ф **«УРОКИ ВЫЖИВАНИЯ».**
**10.10** Х/ф **«СЧАСТЬЯ! ЗДОРОВЬЯ!».**
**12.00** Х/ф **«ОТ СЕМЬИ НЕ УБЕЖИШЬ».**
**13.50** Х/ф **«МАМЫ».**
**16.00** Х/ф **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ».**
**19.15** Квартал 21.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 12 ИЮЛЯ

**6.30** Х/ф **«ТАКИЕ РАЗНЫЕ БЛИЗНЕЦЫ».**
**8.05** Х/ф **«РОЖДЕСТВЕНСКИЕ ХРОНИКИ».**
**10.00** Х/ф **«САДКО».**
**11.25** Х/ф **«ПРИЗРАК».**
**13.15** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ».**
**14.40** Х/ф **«СУПЕРМЕНЕДЖЕР, ИЛИ МОТЫГА СУДЬБЫ».**
**16.15** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ФАКИРА».**
**18.15** Х/ф **«РАЗБОРКИ В СТИЛЕ КУНГ-ФУ».**
**19.45** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ ТАРИФ».**
**21.30** Х/ф **«СВОДНЫЕ БРАТЬЯ».**

## Беларусь 1

**6.20** Слово Митрополита Павла на День Святых апостолов Петра и Павла.

**6.30** Х/ф **«СВЯТАЯ ЛОЖЬ».**

**8.15** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.50** Истории спасения.

**10.30** Зона Х. Итоги недели.

**11.05** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«УКРОЩЕНИЕ СВЕКРОВИ».**

**14.25** Маршрут построен.

**15.15** Твой город.

**15.30** Один день. Агрокомбинат «Снов».

**16.10** Судьба гигантов.

**16.45, 19.10** Х/ф **«НИ ЗА ЧТО НЕ СДАМСЯ».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ПО НАЙМУ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.40** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**

**9.30, 19.40** Телебарометр.

**9.35** «Подиум». Фэшн-шоу. Заключительный выпуск.

**10.25** «До свидания». Реалити-шоу.

**11.10** «Зов крови». Реалити-шоу.

**12.00** «Верю не верю». Трэвел-шоу.

**13.00** Х/ф **«СОКРОВИЩЕ НАЦИИ: КНИГА ТАЙН».**

**15.00** «Папа попал». Реалити-шоу.

**16.35** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.25** Галактическая сага «Звездные войны: Эпизод VI — Возвращение Джедая».

**20.10** «Суперженa». Реалити-шоу. Выпуск 1-й.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«ЯРОСТЬ».**

**23.30** «Орел и Решка. Спецвыпуск». Трэвел-шоу.

## Беларусь 3

**7.00, 13.15, 20.20** Навіны культуры.

**7.15** «О бедном гусаре замолвите слово». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.30** «Беларуская кухня». Трухлявы пень.

**11.00** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Замарожаны». Мастацкі фільм.

**13.30** «Гэты дзень».

**13.40** «Старшыня». Мастацкі фільм.

**16.20** «Славянскі базар у Віцебску-2019». Лепшае.

**17.15** «Фронт за лініяй фронту». Мастацкі фільм [СТ].

**20.05** «Архітэктура Беларусі» [СТ].

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Дужа важная персона». Мастацкі фільм.

**22.20** І.С.Бах. «Пакута па Марку». Выконваюць Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь, Студэнцкі хор Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Дырыжор – Ёрн Бойзен.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Премьера ОНТ: «Народный повар».

**10.45** «Видели видео?».

**12.45** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.

**14.00** Т/с **«ТОНКИЙ ЛЁД».**

**16.20** «Большие гонки».

**18.15** «Три аккорда».

**20.00** «Контуры».

**21.20** ОНТ представляет: Гала-концерт «Моя Александрия» республиканского праздника «Купалье» («Александрия собирает друзей»).

**23.20** ОНТ представляет: «Беларусь. Достояние Республики».

**0.05** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**0.25** Х/ф **«ЖЁЛТЫЙ КАРЛИК».**

## СТВ

**6.25, 23.40** «Пища богов».

**8.10, 11.00** Документальный проект.

**9.05** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**12.25, 13.40, 16.40** Т/с **«РОЗЫСК-3».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**20.35** Документальный спецпроект.

**22.15** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00, 7.00** Мультфильмы.

**6.00** «Беларусь сегодня».

**6.30** «Еще дешевле».

**7.10** Х/ф **«ЗАМОРОЖЕННЫЙ».**

**8.50** «Наше кино. История большой любви». Девчата.

**9.25** «ФазендаЛайф». Круглый дом.

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15, 19.30, 1.00, 4.00** Т/с **«БАБИЙ БУНТ, ИЛИ ВОЙНА В НОВОСЕЛКОВО».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**1.50** Х/ф **«ТАНЦУЙ, ТАНЦУЙ».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».

**6.15** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.50** «Истории ремонта».

**7.20** «Дача».

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.55** Беларусы.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.25** «Первая передача».

**10.55** «Чудо техники».

**11.40** «Дачный ответ».

**12.40** «НашПотребНадзор».

**13.40** Истории спасения.

**14.10** Х/ф **«МОРСКИЕ ДЬЯВОЛЫ».**

**16.20** «Следствие вели…».

**19.45** Ты не поверишь!

**20.40** «Звезды сошлись».

**22.05** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«СУДЬБА ОБМЕНУ НЕ ПОДЛЕЖИТ».**

**10.25, 11.15** Х/ф **«МЕДОВАЯ ЛЮБОВЬ».**

**11.00** ВЕСТИ.

**14.00** Х/ф **«НЕ БЫЛО БЫ СЧАСТЬЯ-2».**

**17.25, 21.45** Х/ф **«ОГОНЬ, ВОДА И РЖАВЫЕ ТРУБЫ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.15** «В людях».

**22.50** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.30** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 2.35** Гонка века. **7.55** Красная Шапка против зла. **9.30** Как приручить дракона 2. **11.10** Голодные игры. **13.35** Голодные игры: И вспыхнет пламя. **16.05** Голодные игры: Сойка-пересмешница. Часть I. **18.10** Шпион, который меня кинул. **20.10** Свадебный Переполох. **22.00** Легенды осени. **0.25** Вне правил. **4.10** Дориан Грей.

### TV1000 ACTION

**7.35** Обливион. **9.55** Стелс. **12.00** Эквилибриум. **13.50** Старски и Хатч. **15.30** Безбашенные. **17.15** Мистер и миссис Смит. **19.15** Мальчики-налётчики. **21.10** Коломбиана. **23.00** Выстрел в пустоту. **1.25** Апокалипсис сегодня (1979/2001). **5.10** 24 часа на жизнь.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.15** Узник замка Иф. Аз воздам. **9.00, 9.50, 10.45, 11.40, 12.40** Лондонград. Знай наших. **13.30** Срочно выйду замуж. **15.25** Марафон Желаний. **17.05** Трезвый водитель. **18.50** Чемпионы: Быстрее. Выше. Сильнее. **20.35** Со дна вершины. **22.30** Отрыв. **0.00** Любовь прет-а-порте. **1.30** Подбросы. **2.50** Ярды. **4.30** Джентльмены, удачи!

### ТВ3

**6.00, 9.45** Мультфильмы. **9.00** «Рисуем сказки». **9.15** «Новый день». **10.45** «Погоня за вкусом». **11.45** «Далеко и еще дальше». **12.45** Х/ф **«ТЕЛЕКИНЕЗ». 14.45** Х/ф **«АСТРАЛ». 16.45** Х/ф **«АСТРАЛ: ГЛАВА 2». 19.00** Х/ф **«АСТРАЛ: ГЛАВА 3». 21.00** Х/ф **«АСТРАЛ: ПОСЛЕДНИЙ КЛЮЧ». 23.00** Х/ф **«ОМЕН». 1.15** Х/ф **«ВНУТРИ». 2.45** «Подарок». **3.15, 3.30, 4.00, 4.30, 4.45, 5.15, 5.45** «Странные явления».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«У КАЖДОГО СВОЯ ВОЙНА». 13.00, 21.00** Т/с **«КУРОРТНЫЙ РОМАН 2». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ПОДРУГА ОСОБОГО НАЗНАЧЕНИЯ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ОПЕРА. ХРОНИКИ УБОЙНОГО ОТДЕЛА. НОВАЯ ВЕРСИЯ». 5.00** Т/с **«ДЕРЕВЕНСКАЯ КОМЕДИЯ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.55** Х/ф **«ОТКРОЙТЕ, ПОЛИЦИЯ!». 3.40** Х/ф **«ЗАЩИТНЕГ». 5.30** Х/ф **«БОЛЬШОЙ СОЛДАТ». 7.20** Х/ф **«ГОЛЛИВУДСКИЕ КОПЫ». 9.35** Х/ф **«ЧЕГО ХОТЯТ ЖЕНЩИНЫ?». 12.05** Х/ф **«ДЕТИ СЕКСУ НЕ ПОМЕХА». 14.05** Х/ф **«SUPERАЛИБИ». 15.55** Х/ф **«БОЛЬШАЯ СВАДЬБА». 17.30** Х/ф **«ДЕДУШКА ЛЕГКОГО ПОВЕДЕНИЯ». 19.30** Х/ф **«СИНЬОР РОБИНЗОН». 21.35** Х/ф **«ЗАКОНУ ТУТ НЕ МЕСТО». 23.25** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ОРКЕСТР».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.40, 1.40, 2.35, 3.40, 4.35, 5.40, 6.30, 7.30** Т/с **«РОККО СКЬЯВОНЕ». 8.30, 9.20, 10.15, 11.10, 12.05, 13.00, 13.55, 14.50, 15.45, 16.40, 17.35, 18.25** Т/с **«ИСТРЕБИТЕЛИ». 19.15, 20.20, 21.20, 22.20** Т/с **«ИСТРЕБИТЕЛИ: ПОСЛЕДНИЙ БОЙ». 23.25** Т/с **«МАММОН».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **9.25** Шоу «ГАЛИЛЕО». **10.00** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **11.00** Т/с **«СЕЗОНЫ ЛЮБВИ». 12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.45** Х/ф **«ЛОВИ ВОЛНУ». 14.10** Мультфильмы «ВОЛШЕБНАЯ КНИГА». **14.25** Х/ф **«ПАРКЕР». 16.35** Х/ф **«ДВИЖЕНИЕ ВВЕРХ». 19.00** Х/ф **«РОБИН ГУД: НАЧАЛО». 21.00** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **22.25** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **23.25** Travel-шоу «СЕЛАПОЛЕТЕЛА». **0.05** Т/с **«ГАЛЫГИН.RU». 1.20** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.10** Make-over шоу «РОГОВ В ГОРОДЕ». **3.00** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Азбука спорта. **7.10** Футбол. Чемпионат Англии. Ливерпуль – Бернли. **9.10** Вот это спорт! **9.25** Футбол. Чемпионат Англии. Шеффилд Юнайтед – Челси. **11.25** Спорт-микс. **11.35** Хоккей на траве. Чемпионат Беларуси. Женщины. Виктория (Смолевичи) – ХК Минск. **13.15** Пит-стоп. **13.50** Футбол. Чемпионат Англии. Вулверхэмптон – Эвертон. **15.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 17-й тур. Превью. **16.20** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 17-й тур. РЦОР-БГУ (Минск) – Рух (Брест). **18.20** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 17-й тур. Динамо-Минск – ФК Минск. **20.20** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 17-й тур. ФК Витебск – Неман (Гродно). **22.30** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. Обзор тура. **23.15** Спорт-центр. **23.30** Футбол. Лига чемпионов УЕФА.

### EUROSPORT

**0.00** Автогонки. World Endurance-2020. Остин. Обзор. **1.00** Покер. WPT Alpha8. **2.00** Снукер. Northern Ireland Open-2019. Финал. **4.00, 14.15** Снукер. UK Championship-2019. Йорк. Финал. **6.00** Автогонки. WTCR. Гейминг. Хунгароринг. **7.00** Автогонки. WTCR. Гейминг. Словакия. **8.00** Автогонки. WTCR. Гейминг. Нинбо. **9.00, 12.30, 13.15** Автогонки. Суперкубок Porsche. Шпильберг. **9.30** Теннис. Ultimate Tennis Show. Восьмой день. **10.30, 11.30** Теннис. Ultimate Tennis Show. Девятый день. **15.00** Велоспорт. «Тур де Франс»-2014. 5-й этап. **16.00** Велоспорт. Виртуальный «Тур де Франс». **18.00, 19.15** Теннис. Ultimate Tennis Show. 10-й день. **20.30** Теннис. Australian Open-2020. Мужчины. Четвёртый круг. Надаль – Кирьос. **22.00** Теннис. Player's Cut. Рафаэль Надаль.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Школа внедорожного вождения. **6.15, 6.55, 17.30, 18.15** Гаражная команда. **6.40, 18.00** Под микроскопом. **7.20, 7.45, 18.45, 18.55** Под микроскопом. **7.35, 10.15, 13.10, 16.45, 19.15, 23.35, 1.45, 3.50** Итоговые новости. **8.05** Резьба по стали. **8.35** Тест с дядей Ваней. **8.55, 9.45** Мотогараж. **9.25** Мото тест-драйв. **10.30** Проверка на дороге. **10.45, 0.50** Испытание на прочность. **11.15, 19.35, 22.45, 3.20** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **11.50, 20.05, 23.20** Авто: вторые руки. **12.05, 20.20, 23.50, 4.05** Трасса А2. **12.55** Вторичка. **13.30, 2.00** Тест на «Драйве». **13.55, 1.20** Испытание на прочность. Эксклюзив. **14.25, 17.00, 2.25** Комплектация. Эксклюзив. **15.00, 21.10, 4.50** 9 злобных водителей. **15.30** Автолайф. **15.50** Байки про байки. **16.30, 22.30** Все включено. Эксклюзив. **21.45, 5.20** Вечер с Пикуленко. **0.40** Наезд! **2.55** Сити тестер.

### EXPLORE

**6.00, 7.00, 7.55, 8.45** Речные чудовища. **9.35, 10.00** Демонтаж: Новая Зеландия. **10.25** Масштабные инженерные ошибки. **11.15** Поисковая команда в Австралии. **12.00, 12.45, 13.35, 14.20, 15.05, 15.55, 16.40, 17.25, 18.15, 19.00, 19.50, 20.35, 21.20, 22.10, 22.55, 23.45, 0.30** Австралийские золотоискатели. **1.20, 2.05, 2.45, 3.30, 4.15, 4.55** Лесные люди.

### HISTORY

**6.05, 6.50, 7.35, 8.20, 4.50** Музейные тайны. **9.05, 9.45, 12.15, 13.00** Тайны музеев. **10.35, 11.25** Коварная Земля. **13.50** Разгадка тайны пирамид. **14.45, 15.35, 16.25, 17.20** Загадки Египта. **18.10** Древние суперстроения. **19.05** Тайны военной машины нацистов. **20.00** Тридцатилетняя война – Железный век. **21.00** Монархи: забытые письма. **22.05** Шпионаж за монархами. **23.00** Карты убийства. **23.45, 0.30, 3.20, 4.05** Запретная история. **1.15, 2.20** История христианства. **5.35** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.05** Выживание в дикой природе. **6.55** Берег хищников. **7.50, 8.45, 9.40** Львиная страна: ночь и день. **10.35, 11.25, 12.20, 13.15, 14.05** Бескрайняя Африка. **15.00, 18.30** Дикая Латинская Америка. **15.55, 16.45, 17.35** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **19.25, 20.15** Загадочная планета. **21.05** Земля больших кошек. **21.55, 22.40** Война за животных. **23.25** Невероятные встречи с животными. **0.10** Жуткие, настоящие и странные. **1.05** Хищные питомцы. **1.50, 5.10** Мутации погоды. **2.40, 3.05** Природа в кадре. **3.30** Ветеринар из Йоркшира. **4.15, 4.45** Уличный ветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 6.15** Зона строительства. **6.40** Золото Юкона. **7.25, 8.10, 0.55, 1.40** Авто-SOS. **8.55, 9.40, 10.25** Дикий тунец. **11.10** Свидетели катастроф. **11.55, 3.55** Взгляд изнутри: Мегаторнадо. **12.45, 13.30, 14.15** Земля под рентгеном. **15.00, 15.45, 16.25, 17.15** Расследование авиакатастроф. **18.00, 18.20, 0.10, 0.30** Горячие границы: Латинская Америка. **18.45** Служба безопасности аэропорта: Колумбия. **21.05, 21.50** Поймать контрабандиста: Аэропорт Кеннеди. **22.35** Служба безопасности аэропорта: Перу. **2.25, 3.10** Космос: Пространство и время. **4.45** Осушить океан. **5.35** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.05, 22.05, 2.00** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 18.35, 22.35, 2.30** Охота в Новом Свете. **6.55, 10.50, 14.50, 19.00, 23.00, 3.10** Мир рыболова. **7.20, 15.35, 23.30** Вкусные рецепты рыболова. **7.55, 11.50, 16.05, 20.00, 0.00, 4.05** Андрей Старков и его команда. **8.25, 12.20, 16.35, 20.30, 0.30, 4.35** Рыбалка на малых реках Удмуртии. **8.50, 17.40, 21.35, 5.05** Россия заповедная. **9.25, 13.25, 5.35** Рыбалка в России. **11.20, 19.30, 3.40** Вкусные рецепты охотника. **12.50, 17.05** Рыбалка без границ. **15.15** Охотничья и рыболовная кухня. **21.00** На рыбалку с охотой. **1.00** Охота в Удмуртии. **1.30** Безграничная рыбалка. **2.55** Две на одного. Оружие.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.05** Профотбор. **6.30, 10.35, 14.45, 18.35, 22.30, 2.40** Дачных дел мастер. **7.00, 11.05, 23.05** Старинные русские усадьбы. **7.30, 11.40, 15.45, 19.35, 23.35, 3.55** Школа дизайна. **8.00, 12.05, 16.15, 20.10, 0.05, 4.20** Лучки-пучки. **8.15, 12.25, 16.30, 20.25, 0.25, 4.35** Сладкая жизнь. **8.35, 12.40, 0.40** Сам себе дизайнер. **8.50, 12.55, 17.05, 21.00, 0.55, 5.05** У мангала. **9.15, 3.40** Травовед. **9.35, 1.25** История одной культуры. **13.25, 22.00** Праздник в дом. **13.55** Варенье. **14.15, 18.05, 2.10** Домашняя экспертиза. **15.15, 19.05, 3.10** Старые дачи. **16.50, 20.40, 4.50** Керамика. **17.35, 21.30, 5.35** ТОП-10. **1.55** С пылу с жару.

# Купа – Нарач. Погляд праз гады і вёрсты

*Заканчэнне. Пачатак у №26.*

МЯДЗЕЛ

**Яшчэ далекавата ад скрыжавання мінскай шашы з мясцовай дарогай, а сэрца пачынае шчымець, прадчуваючы сустрэчу з вёскай майго маленства. Яе нягучнай назвы – Купа – няма сёння на карце Беларусі, замест значыцца гордае – Нарач. Аднак справа не ў назве, а ў памяці і любові.**

### Пра асобу інжынера Брудзыньскага

У 1935 годзе зямлю ля возера Нарач купляе інжынер Брудзыньскі, які будуе тут ферму серабрыстых ліс і пральню. Брудзыньскі – сівы, немалады, худы чалавек, снайпер і добры коннік. Даведаўшыся, што ў чароце хаваецца дзік, ён паплыў на байдарцы і адным стрэлам з парабелума паклаў жывёлу на месцы.

Гэта быў дэспатычны чалавек. Напрыклад, у навальніцу на возеры перакулілася яго байдарка. Калі мясцовыя выцягнулі інжынера з вады, ён біў іх па тварах, заяўляючы, што не прасіў яго ратаваць. Выклікаўшы на наступны дзень збавіцеляў, Брудзыньскі даў кожнаму па 50 злотых і падкрэсліў, што гэта не плата за выратаванне, а кампенсацыя за пабоі.

Ён запрашаў таксама ў святы людзей, а падпіўшы, частаваў іх бізуном. Праўда, як у папярэднім выпадку, выплачваў кампенсацыю за прычыненую крыўду. Нязменна гасцінна інжынер ставіўся да дзяцей-валачобнікаў, шчодра адорваючы іх цукеркамі і кнігамі. Ён купіў для вёскі камплект сельскагаспадарчай літаратуры разам з шафамі. Старэйшыя жыхары Купы і сёння ўспамінаюць, як адным інжынер даў грошы на новага каня, іншых падтрымаў у хваробе.

### Як адпачывалі на Нарачы ў 1930-я гады

Інжынер Брудзыньскі прадаў некалькі гектараў зямлі Польскаму турыстычна-краязнаўчаму таварыству, якое ў 1937 годзе пабудавала побач з яго фермай турбазу. Наплыў курортнікаў спрыяў развіццю вёскі. За 1936-1939 гады пабудавалі дзесяць дамоў для адпачывальнікаў. За пакой, у залежнасці ад умоў, плацілі да 60 злотых у месяц. Начлег у гумне на сене каштаваў 50 грошаў. У час сезона Нарач наведвалі таксама дружыны харцэраў – сяброў польскага моладзевага аб'яднання. Яны ладзілі палатачныя летнікі, апекаваліся мясцовымі дзецьмі: ладзілі вогнішчы, гульні, забавы, займаліся спортам.

Значная старонка гісторыі Нарачы звязаная з рашэннем польскіх уладаў нацыяналізаваць возера і з барацьбой рыбакоў за свае правы.

**Канфлікт скончыўся кампрамісам паміж мясцовымі і Міністэрствам дзяржаўных лясоў. Апошняе атрымлівала права лавіць рыбу ў возеры, але абавязалася выдаткоўваць сродкі на яго рэгенерацыю.**



Фота з Нацыянальнай бібліятэкі Польшчы.

На возеры Нарач у 1930-х.

### Купскія бізнесоўцы

Далей у жыцці вёскі адбываюцца падзеі рознага маштабу: ад будаўніцтва невялікага кавалка цэментнай дарогі з абеліскам «11 лістапада» на старых могілках да адкрыцця **Ліпінскім** першага рэстарана-кафэ «Нарачанка». Збудавалі і адкрылі вузкакалейку Кабыльнік-Купа. На адкрыцці прыязджаў міністр Польскай чыгункі.

Жыхары Купы фактычна манапалізавалі перавоз фурманкамі пасажыраў вузкакалейкі да канцавога пункту прызначэння. Цэны вызначалі самі. Напрыклад, перавоз пасажыра з Мядзела ў Кабыльнік (21 кіламетр) каштаваў два злотыя. А купскія жыхары за дастаўку кліента з вакзала да пансіяната (1,5 кіламетра) бралі найменш – 1,5 злотага. Да пансіяната ў Гатавічах – 8-10 злотых. Дзецям за працу насільшчыкаў плацілі ад 20 грошаў да 1,5 злотага.

### Як святкавалі ў Купе

Адна з цэнтральных падзей у жыцці чалавека і вёскі – вяселле. Часам здараліся шлюбы па каханні. Традыцыйна ж бацькі хлопца шукалі для яго жонку, якая б памнажыла багацце. Засылаліся сваты, якія хвалілі маладога. І пасля заканчэння спрэчкі наконт пасагу маладой вызначалі дату шлюбу. За тыдзень да вяселля найбольш паважаныя жанчыны выпякалі каравай. Урачыстасць пачыналася ў маладой. Пасля абвянчання шлюбу вясельны поезд, што вяртаўся з касцёла, затрымліваўся на ўскрайку вёскі перад брамай, зробленай і ўпрыгожанай моладдзю. Тут галоўны сват – маршалак – адкупляўся гарэлкай і цукеркамі. Ён жа на трэці дзень перавозіў вяселле да маладога, маючы на возе пасаг маладой у куфры.

Таксама купская моладзь ахвотна ўдзельнічала ў валачобным абрадзе на Каляды і Вялікдзень, спяваючы пад вокнамі святыя песні або жартоўныя прыпеўкі.

### Пасля верасня 1939 года

Пачатак вайны і падзеі верасня 1939 года амаль на тры тыдні пазбавілі Купу ўлады. Узнікла пагроза рабунку людзьмі пансіянатаў. Адзін з кіраўнікоў турбазы, **Генрых Главацкі**, склікаў добраахвотную ахову, каб не дапусціць анархіі. Калі ўвайшла Чырвоная Армія ў Паставы, Главацкі перадаць маёмасць пансіянатаў пад ахову войска. Ён дайшоў да камбрыга Громава, які вызначыў салдат для аховы аб'екта́ў.

Гэты крок выратаваў Главацкага ад арышту, а яго сям'ю – ад высылкі ў Сібір. Бо неўзабаве да іх заявілася тройка: пракурор, прадстаўнік сельсавета і начальнік міліцыі, каб на месцы правесці пасяджэнне. Брат Главацкага **Тадэвуш**, пачуўшы гэта, паспяшаўся ў Паставы і аб усім паведаміў камбрыгу Громаву. Той накіраваўся ў Купу і забараніў чапаць Главацкіх.

На пачатку 1940 года армія перадала турбазы ваенізаванай арганізацыі, якая стварыла тут ваенна-фізкультурны лагер для камсамольцаў з усяго СССР. На трэці дзень Вялікай Айчыннай летнік эвакуіравалі. З'ехала і ўлада.

### Фашысты ў Купе

Зноў для аховы маёмасці Главацкі арганізуе атрады. Праз пару тыдняў на турбазах размясціліся нямецкія салдаты. Яны нішчылі абсталяванне, выбівалі шыбы. У ліпені 1941 года па дарозе на Усходні фронт на турбазе часова затрымаўся штаб нямецкай дывізіі. У мэтах бяспекі ўзялі ў закладнікі вяскоўцаў **Вітольда Ціхана**, **Эдуарда Шапэчку**, **Эдуарда Яцыну** і яшчэ аднаго чалавека. Але ўсё абышлося.

У жніўні-верасні 1943 года фашысты на некалькі дзён прыехалі ў Купу. Тут яны застрэлілі маці аднагадовага хлопчыка, жонку **Яна Ціхана**, а яго самога вывезлі ў Германію. Арыштавалі і накіравалі ў Германію Тадэвуша Главацкага, сям'ю **Бранецкіх** і некалькіх хлопцаў. Праўда, Бранецкіх з-за іх паважнага ўзросту ў штабе ў Кабыльніку адпусцілі.

Пакідаючы вёску, захопнікі забівалі людзей, палілі будынкі пансіяната, Марской і Турыстычнай лігі, хацелі спаліць усю вёску, падпаліўшы гумно **Казлоўскіх**. Аднак жыхарам удалося ўратаваць вёску. На раніцу Вітольд і **Вацлаў** Ціханы сабралі целы і пахавалі на старых могілках. Сярод жыхароў вёскі было 12 падпольшчыкаў, пяцёра змагаліся ў партызанскіх атрадах Арміі Краёвай, у вераснёўскай аперацыі ўдзельнічаў адзін чалавек. За прыналежнасць да брыгады «Кміціца» Арміі Краёвай **Фёдар Маркаў** расстраляў трох вяскоўцаў (рапарт Маркава Панамарэнку ад 15 кастрычніка 1943 года). За гэта ж аднаго чалавека асудзілі на дзесяць гадоў турмы, другі прабыў 1,5 года ў Калузе, а трэці павесіўся ў знак пратэсту супраць прымусовага высялення.

### Пасля вайны

У Купе адкрываюць багатыя лячэбна-мінеральныя крыніцы і будуюць санаторыі. Мясцовыя ўлады выражаюць высяліць вяскоўцаў, плануючы засяліць Купу сем'ямі партызан Маркава. Першым да высялення прызначылі **Адама Шапэчку** з сям'ёй. Напярэдадні гэтай акцыі ў адчаі перад жорсткай дзяржаўнай машынай Адам павесіўся. Тады ўлады прыпыняюць рашэнне аб высяленні. Аднак забараняюць жыхарам рамантаваць дамы і гаспадарчыя пабудовы.

У 1973 годзе мясцовыя ўлады пракладаюць новую вуліцу праз старыя могілкі. У сярэдзіне жніўня будаўнікі разбураюць абеліск «11 Лістапада» і кладуць тратуар якраз на магіле забітай гітлераўцамі сям'і Бранецкіх. Дарэмна стары Антон Ціхан дамагаўся эксгумацыі трупаў.

…Кожныя ўспаміны заўсёды суб'ектыўныя. Мае не выключэнне. Гісторыя ж вёскі ці горада – як гісторыя чалавека. У ёй ёсць месца і штодзённай працы. І святочнай вечарыне. І востра-салёнаму народнаму слову. І доўгай, пякучай слязе.

**Віктар КАРАТАЙ, Мінск.**

● КАЛЯНДАР

**3 ЛІПЕНЯ**

**1944.** Ад нямецкіх захопнікаў вызваленыя Мінск, Радашкавічы, Ілья, Даўгінава, Астравец.

**4 ЛІПЕНЯ**

**1889.** Нарадзілася **Ганна Рагель**, в. Белыя Маладзечанскага раёна. Памерла ў Маладзечне ў 2010 ва ўзросце 121 год. Была найстарэйшай жыхаркай Беларусі.

**1944.** Ад нямецкіх захопнікаў вызваленыя Мядзел, Крывічы, Ракаў.

**5 ЛІПЕНЯ**

**1944.** Ад нямецкіх захопнікаў вызваленыя Валожын, Маладзечна, Смаргонь.

**6 ЛІПЕНЯ**

**1927.** У вёсцы Літва на Маладзечаншчыне нарадзіўся беларускі мастак **Кастусь Харашэвіч.** Аўтар кнігі ўспамінаў «Зведанае і перажытае», 2004. У філіяле дзяржаўнага літаратурнага музея імя Янкі Купалы ў Яхімоўшчыне працуе персанальная галерэя. Памёр у 2013 у Маладзечне.

**1934.** Створаны Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер (у некаторых крыніцах 12 або 17 ліпеня). Месца пазасудовага інтэрнавання палітычных апанентаў Пілсудскага. Вязнямі былі нашы землякі **Сцяпан Бурак** з Мойсічаў, ураджэнкі Маладзечна **Мікалай Ганецкі**, **Уладзімір Новік** са Смаргоншчыны, **Янка Шутовіч** і іншыя.

**1944.** Ад нямецкіх захопнікаў вызваленыя Свір, Івянец.

**7 ЛІПЕНЯ**

**1864.** Адкрыта Маладзечанская настаўніцкая семінарыя. Рыхтавала настаўнікаў пачатковых школ. Існавала да 1920 года. У 1915 годзе пераведзеная ў Смаленск. Сярод навучэнцаў **Флягонт Валынец**, **Міхась Чарот**, **Міхась Забэйда-Суміцкі.**

**1944.** Ад нямецкіх захопнікаў вызваленыя Ашмяны.

**8 ЛІПЕНЯ**

**1974.** У Валожыне нарадзілася расійская спявачка **Дзіяна Арбеніна**.

**9 ЛІПЕНЯ**

**1946.** У Смаргоні нарадзіўся **Уладзімір Някляеў**, беларускі паэт, празаік і грамадска-палітычны дзеяч. Дзіцячыя гады правёў у Крэве. Лаўрэат шэрагу ўзнагарод за літаратурную дзейнасць. Перакладаецца на мовы свету.



Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.

# Украінскім баршчом частавалі проста ў прамым эфіры

## Жыхарка Чысці дала анлайн-канцэрт у Віцебску

МАЛАДЗЕЧНА

**19 чэрвеня ў Віцебску ў рамках праекта «Мастацтва не мае межаў» адбыўся канцэрт «Я спяваю душой». Яго дала жыхарка Чысці, старшыня культурна-асветніцкага таварыства ўкраінцаў «Краяны» Ясенія Мікуліч.**

Мерапрыемства ладзіў Цэнтр культуры «Віцебск» і філіял Цэнтра нацыянальных культур пры падтрымцы ганаровага консула **Ігара Калінічэнкі** і старшыні Віцебскага гарадскога культурна-асветніцкага таварыства ўкраінцаў «Радаслаў» **Генадзя Чарнаморанкі**. Канцэрт прысвяцілі культуры Украіны.



Ясенія Мікуліч (пасярэдзіне) падчас анлайн-канцэрта ў Віцебску.

Фота забяспечанае гераіняй публікацыі.

**– Мы разам з дачкой Валянцінай, якая часта мяне суправаджае, у Віцебску былі ўпершыню. Для нас зладзілі экскурсію. Шмат што ўразіла і запомнілася: ратуша, амфітэатр, вулічны клоўн, – дзеліцца ўражаннямі суразмоўца.**

Да канцэрта Ясенія Мікуліч пачала рыхтавацца за некалькі месяцаў. Мерапрыемства павінна было адбыцца раней, але перашкодзіла хвароба спявачкі. У красавіку Ясенія захварэла на каронавірус, трапіла ў бальніцу.

– Крыху адпачыўшы пасля хваробы, я працягнула рэпетыцыі і ўсё ж вырашыла ехаць у Віцебск на канцэрт, – працягвае жанчына. – Сваім выступленнем хацела данесці людзям кавалачак цудоўнай украінскай культуры.

Як заўсёды, Ясенію падтрымлівала яе сям'я – муж, дзеці, унукі, сябры і сваякі. З украінскай атрыбутыкай дапамаглі сябры з Мінска. Таксама, па словах суразмоўцы, яе творчасць падтрымліваюць у Чысцінскім Доме культуры. І на гэты раз яна ўдзячная дырэктару **Генадзю Сушко**. Тут дапамаглі і з беларускім касцюмам, і з музыкай.

Для выступлення спявачка абрала вядомыя пені на ўкраінскай і беларускай мовах. У прамым эфіры да канцэрта далучыліся гледачы з Кіева – спявачка **Анастасія Мурміль** і мастацтвазнаўца і прадзюсар **Таццяна Апанасенка**.

– А яшчэ проста ў прамым эфіры зладзілі дэгустацыю баршчу. Пакаштаваўшы некалькі варыянтаў, я павінна была ўгадаць сапраўдны ўкраінскі боршч. І ўгадала! – распавядае Ясенія.

Для Ясеніі гэта быў першы анлайн-канцэрт. Таму прызнаецца, напачатку адчувала разгубленасць і хваляванне. Але падтрымка і душэўныя дыялогі паміж песнямі паступова супакоілі.

– На гэты раз дзейнасць нашага маладзечанскага таварыства «Краяны» прадстаўляла я. Але ў нас шмат таленавітых людзей. Гэта **Валянціна Кудрэвіч**, **Каміла Суша**, **Галіна Баян-Ключнікава**, **Леанід Лысакабылка**, – прадставіла Ясенія сяброў аб'яднання, якім кіруе.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Міністр культуры наведаў рэгіён

АШМЯНЫ

Міністр культуры **Юры Бондар** з рабочым візітам наведаў Ашмянскі раён.

У паездцы яго суправаджалі старшыня райвыканкама **Уладзіслаў Гершгорын**, начальнік упраўлення культуры аблвыканкама **Алена Клімовіч**, намеснік старшыні райвыканкама **Наталля Станкевіч**, начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі **Кацярына Астрамовіч**, дырэктар УКБ Ашмянскага раёна **Станіслаў Хілінскі**, метадыст аддзела метадычнай работы РЦК **Сяргей Жылік**.

Таксама Бондар наведаў аграгарадок Гальшаны і пацікавіўся ходам рэстаўрацыйных работ на Гальшанскім замку.

**Настасся УТКІНА.**

## На скрыжаванні вуліц Шубіна і Незалежнасці зрабілі астравок бяспекі

ВІЛЕЙКА

У Вілейцы на скрыжаванні вуліц Шубіна і Незалежнасці па ініцыятыве УДАІ УУС Мінскага аблвыканкама ўдасканалілі арганізацыю дарожнага руху.

У рамках рэгіянальнага плана мерапрыемстваў па зніжэнні аварыйнасці тут абсталявалі прыпадняты астравок бяспекі.

Гэта рашэнне дазволіла спрасціць складаную канфігурацыю скрыжавання. Кіроўцам стала зручней і бяспечней яго праязджаць. Таксама гэтыя змены станоўча паўплывалі і на перамяшчэнне пешаходаў.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Актывісты аднавілі крыж у памяць вілейскіх краязнаўцаў

4 ліпеня ў вёсцы Заброддзе, на Вілейшчыне, дзе **сям'я Цітовічаў** стварае музей Першай сусветнай вайны, усталююць і асвецяць адноўлены крыж у памяць вілейскіх краязнаўцаў **Віталя Кастэнкі** і **Анатоля Рогача.** Збор людзей і ўстаноўка крыжа – у 11:30. Асвячэнне – у 12:00.

1 ліпеня Віталю Кастэнку споўніўся б 71 год. Вілейскія актывісты планавалі ў дзень народзінаў Віталя Міхайлавіча ўсталяваць і ўрачыста адкрыць мемарыяльную дошку на доме, дзе ён жыў. З адпаведнай заявай звярталіся ў Вілейскі райвыканкам. Але працэдура яшчэ праходзіць узгадненне і ініцыятыўная група не атрымала адказу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Валожынскім судзе – новы кіраўнік

ВАЛОЖЫН

Ад 19 чэрвеня старшынёй суда Валожынскага раёна прызначылі **Таццяну Несцярэўскую**.

Таццяна Несцярэўская нарадзілася ў Валожыне. Скончыла БДУ па спецыяльнасці правазнаўства.

Пачынала працаваць у Забрэзскай школе. Уся далейшая работа, пачынаючы ад лістапада 1987 года, звязаная з юрыдычнай дзейнасцю.

Пяць гадоў працавала сакратаром судовага пасяджэння суда Валожынскага раёна. Далей год была кансультантам натарыяльнай канторы раёна, юрысконсультам Валожынскага аддзялення №6401 Ашчадбанка.

Ад 1994 да 1997 года – следчы пракуратуры, памочнік пракурора Валожынскага раёна. Ад снежня 1997 пачынаецца пастаянная праца ў судзе Валожынскага раёна: на працягу пяці гадоў – суддзёй па адміністрацыйных справах і выканальніцкіх справах, суддзёй, паведамляюць у Валожынскім райвыканкаме.

**Аддзел інфармацыі.**

## Сямашка: Паліва на Астравецкую АЭС загрузяць у жніўні

АСТРАВЕЦ

Загрузка паліва на Беларускай атамнай электрастанцыі пад Астраўцом пачнецца ў жніўні. Пра гэта 29 чэрвеня паведаміў БелТА пасол Беларусі ў Расіі **Уладзімір Сямашка**.

«Мы лічым, што ў жніўні прыступім да загрузкі на першы рэактар паліва, – сказаў Сямашка. – І далей пойдзе фізічны, а затым энергетычны пуск.

Стаіць задача ў 2021 годзе (у першым квартале, па меншай меры) цалкам запусціць у прамысловую эксплуатацыю першы энергаблок».

Раней пісалі, што фізічны пуск першага энергаблока БелАЭС прызначаўся на ліпень 2020 года, а энергетычны – на верасень-кастрычнік 2020 года. У пачатку чэрвеня **Аляксандр Лукашэнка** казаў прэм'еру **Орбану**, што АЭС запусцяць «літаральна на днях».

**Паводле БелТА.**

# Забівалі стрэлам у патыліцу. Як у чэрвеньскую ноч работнікі НКВД расстрэльвалі вязняў ашмянскай турмы

АШМЯНЫ

**У ноч з 23 на 24 чэрвеня 1941 года адбыўся масавы расстрэл у Ашмянскай турме.**

Аддзел НКВД паўстаў у Ашмянах 2 лістапада 1939 года. Яго начальнікам стаў старшы лейтэнант дзяржбяспекі **Рыгор Сямыкін**. Пасля яго гэту функцыю выконваў лейтэнант дзяржбяспекі **Васіль Яршоў**. Арыштаваных савецкімі службамі бяспекі змяшчалі ў будынку даваеннай польскай турмы, на вуліцы Пілсудскага, 60. Сёння гэта вуліца Савецкая. Турма была абгароджаная высокім плотам.

Па суседству з турмой быў будынак былога павятовага старосты. Цяпер там райвыканкам. Па ўспамінах арыштаванага ў снежні 1939 года **Эдварда Навасельскага**, у камеры, якая была разлічаная на восем чалавек, знаходзіліся 72 вязні. Каб уначы схадзіць у прыбіральню, трэба было ісці па нагах, руках і галовах. З перапоўненай прыбіральні пад ляжачых людзей цякла мача. Да кепскіх санітарных умоў дадаваўся голад.

## Самаму малодшаму вязню было 17

На другі дзень пасля нападу Германіі на Савецкі Саюз, 23 чэрвеня ў 10:00, работнікі турмы вывелі зняволеных на ўнутраны дворык, дзе пачалі дзяліць на групы. Вечарам каля 60-100 вязняў аддзялілі ад іншых і завялі ў камеру №3. Спіс іх прозвішчаў невядомы. Пераважна гэта былі жыхары былога Ашмянскага павета, якія назваліся палякамі. Самаму малодшаму з іх было 17 год.

Ахоўнікі пачалі выклікаць вязняў з камеры №3 па прозвішчы, па аднаму або па двое. Тым, каго выклікалі, казалі забраць асабістыя рэчы, бо, маўляў, іх будуць эвакуіраваць да іншай турмы ці вызваляць. Насамрэч ім звязвалі рукі калючым дротам, у некаторых выпадках завязвалі рот, а потым заводзілі ў падвал суседняга будынка былога старосты. Там забівалі стрэлам у патыліцу. Па меры запаўнення сутарэнняў целамі забітых, энкавэдысты адыходзілі бліжэй да выхаду.

«Я здолеў заўважыць, што тыя вязні, якіх выводзілі з камеры перада мной, ляжаць ужо мёртвыя на падлозе ў глыбіні падвала. Мяне правялі ўглыб гэтага падвала і ў нейкі момант стрэлілі ззаду. Адчуў трэск раздробленага шыйнага пазванка і боль, і кроў, якая цякла ў мяне па карку. Аднак я не згубіў прытомнасці і здаецца нават, што працягваў стаяць. У сваю чаргу памятаю, што супрацоўнік (не ведаю, каторы) падставіў мне пісталет да скроні і стрэліў. Я ўбачыў толькі бляск і згубіў прытомнасць. Потым стралялі ў мяне трэці раз – у спіну. Калі я апрытомнеў, аказалася, што я знаходжуся ў шпіталі ў Ашмяне» – сведчанне **Палікарпа Страшыцкага**, вязня ашмянскай турмы.

## За пратэст забівалі з асаблівай жорсткасцю

Зняволеныя, якіх выводзілі на месца расстрэлу, паводзілі сябе спакойна. Спачатку яны не ведалі пра пагрозу, а потым не бачылі шанцаў на паспяховы супраціў. Аднак **Вацлаў Аляхновіч** і **Адольф Лапушэўскі**, кожны з іх у розны час, атакавалі канваіраў. Ашалелыя ахоўнікі ў адказ на гэта забілі іх з асаблівай жорсткасцю, выкалаўшы або выціснуўшы вочы. Але гэты супраціў не быў безвыніковым. Пасля бойкі Лапушэўскага з энкавэдыстамі, канваіры вярнулі вязня, які ішоў за ім – **Баляслава Новіка**, назад у камеру. І пазней не выклікалі яго другі раз.

Экзекуцыі працягваліся да світання 24 чэрвеня. Зняволеныя, да якіх даходзілі водгукі стрэлаў, зарыентаваліся, які лёс напаткаў тых, каго забралі з камеры. У той час пад будынкам турмы пачалі збірацца жыхары Ашмянаў, заклапочаныя лёсам сваякоў і сяброў. Адзін з іх крыкнуў вартаўнікам, што немцы ўжо знаходзяцца ў горадзе. Гэта мела добры вынік, бо энкавэдысты ў паніцы пачалі ўцякаць. Ацалелыя вязні выламалі дзверы камер і з дапамогай цывільных выбраліся на волю. Крыху пазней група супрацоўнікаў на чале з начальнікам мясцовага НКВД вярнулася ў турму. Энкавэдысты, не заспеўшы нікога ў будынку, не спрабавалі адшукаць уцекачоў, а канчаткова эвакуіраваліся з Ашмянаў.




Шыльда, што паведамляе пра расстрэл вязняў у чэрвені 1941 года.

## Забойства вязняў у Ашмянах было самавольнае

Крыніцы падаюць розную колькасць ахвяр расстрэлу. У рапарце на тэму экзекуцыі турмаў Беларускай ССР, напісаным 3 верасня 1941 года намеснікам начальніка ўпраўлення турмамі НКВД БССР лейтэнантам дзяржаўнай бяспекі Апалевым, падаецца, што расстраляныя былі 30 вязняў. Сведкі сцвярджалі, што ў сутарэннях старостава знайшлі целы 52 ахвяр, а таксама пяць цяжка параненых вязняў. З параненых трое выжыла, адзін памёр, лёс пятага не атрымалася ўстанавіць. Былі ідэнтыфікаваныя 24 целы. Яшчэ ўстанавілі, што сярод нераспазнаных ахвяр знаходзіліся два настаўнікі з Ашмянаў. Рапарт таксама інфармуе, што рашэнне пра забойства вязняў прынялі камісар **Клімянко** і намеснік оперупаўнаважанага **Аўдзееў**.

Забойства зняволеных ашмянскай турмы мела самавольны характар. Толькі 24 чэрвеня 1941 года народны камісар унутраных спраў Лаўрэнці Берыя выдаў загад абласным аддзелам НКВД расстраляць усіх палітычных вязняў, якія ўтрымліваюцца ў заходніх абласцях СССР, эвакуацыя якіх углыб краіны была немагчымая.

Цяпер можна ідэнтыфікаваць толькі 22 забітых, а таксама двух вязняў, якія выжылі.

1. Аляхновіч Вацлаў – Ашмяна, рабочы
2. Багдановіч Міхал – Белянішкі, гміна Ашмяна, перажыў экзекуцыю
3. Ваўжынец Станіслаў (Сасцін/Сусцін Ваўжынец) – Ашмяна
4. Загарэнка (Захарэнка) Гедэон – Каменка, гміна Гальшаны
5. Захарэўскі Раман – Жынкоўшчына, гміна Гальшаны , фермер
6. Златагурскі Юзаф – Ашмяна
7. Казакевіч Ян – Граўжышкі
8. Карчэўскі Юзаф – Бянюны, гміна Гальшаны, войт
9. Краўчонак Міхал – Ашмяна, працаўнік бровара
10. Лапушэўскі Адольф – Ашмяна, працаўнік бровара
11. Ластоўскі Баляслаў – Юркішкі, гміна Граўжышкі
12. Макрыцкі Антон – Гальшаны, ветэрынар
13. Марчык Мар'ян – Маркінента, гміна Гальшаны, млынар
14. Масальскі Вітольд – Плебаньцы, гміна Гальшаны, легіянер
15. Міцкевіч Крыштаф – Павішні, гміна Ашмяна, фермер
16. Навасельскі Уладзіслаў – Нарушоўцы, гміна Гальшаны
17. Навіцкі Зыгмунт – Ашмяна, староста
18. Нарковіч (Наркевіч) Вітольд – Суглобішкі, гміна Гальшаны
19. Ракоўскі Баляслаў – Ашмяна, працаўнік ашмянскай пошты
20. Раманоўскі Антон – Гальшаны/Лабы, гміна Гальшаны, уладальнік крамы
21. Рэкуць Баляслаў – Вельбутова, гміна Граўжышкі
22. Страшыцкі (Сташыцкі) Палікарп – Малышкоўшчына, гміна Гальшаны (перажыў экзекуцыю)
23. Цюкша Эдвард – Біюцішкі, гміна Гальшаны
24. Эйгерд Францішак – Каралінава, гміна Гальшаны.




Адзін з вязняў ашмянскай турмы.

Таксама праўдападобна, што сярод забітых былі: **Цэзары Эйгерд**, фермер з Каралінава гміны Гальшаны; **Мікалай Мароз**, дарожны тэхнік з Гальшанаў.

Дакладная лічба ахвяр, пахаваных у брацкай магіле, невядомая. Некаторыя з забітых былі пахаваныя сваякамі. Пяць чалавек пахавалі ў Гальшанах на прыкасцельных могілках, двух – у Граўжышках, аднаго – у Багданаве.

**Арцём ТАРАСЕВІЧ,**
**Ашмяны.**
**Фотаздымкі забяспечаныя аўтарам.**



Фота Самарыя ГУРАРЫЯ, rgakfd.ru.

Падчас Мінскай наступальнай аперацыі.

# Моцная абарона немцаў, нечаканы манеўр савецкіх войскаў. Як у 1944 годзе вызвалілі Маладзечна

**5 ліпеня 1944 года Маладзечна вызвалілі ў ходзе маштабнай аперацыі «Баграціён». «РГ» распавядае, як праходзіла вызваленне і што пра яго ўспамінаюць сучаснікі.**

На пачатку вайны ў бок Маладзечна наступала 9-я армія генерала Штрауса і 3-я танкавая група генерала Гота. Раніцай 25 чэрвеня ў напрамку Віцебска адышоў апошні эвакуацыйны эшалон.

**26 чэрвеня 1941 года Маладзечна захапілі нямецкія войскі. У паўночна-ўсходняй частцы горада стварылі лагер для ваеннапалонных «Шталаг 342», на тэрыторыі якога загінула больш за 30 тысяч чалавек.**

## Вызваленне Маладзечна – частка аперацыі «Баграціён»

23 чэрвеня 1944 года пачалася аперацыя «Баграціён». На першым этапе – ад 23 чэрвеня да 4 ліпеня – войскі трох Беларускіх і аднаго Прыбалтыйскага франтоў правялі Віцебска-Аршанскую, Магілёўскую, Бабруйскую і Мінскую наступальныя аперацыі. У ходзе іх разгрямілі галоўныя сілы групы армій «Цэнтр».

«Баграціён» – буйнамаштабная наступальная аперацыя Вялікай Айчыннай вайны, якая праводзілася 23 чэрвеня – 29 жніўня 1944 года. У ходзе аперацыі савецкая армія нанесла найбуйнейшае паражэнне нямецкай, гэта адна з найбуйнейшых ваенных аперацый за ўсю гісторыю чалавецтва.

Вызваленне Маладзечна стала часткай аперацыі «Баграціён», а дакладней – Мінскай наступальнай аперацыі.

Са Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандуючага: «Войскам 3-га Беларускага фронту пад камандаваннем генерала арміі Чарняхоўскага з ходу фарсіраваць раку Бярэзіну, развіваць імклівае наступленне на Мінск і правым крылом на Маладзечна. Не пазней 7-8 ліпеня 1944 года авалодаць ва ўзаемадзеянні з войскамі 2-га Беларускага фронту горадам Мінск і правым крылом заняць Маладзечна».

Узяцце Маладзечна і мястэчка Краснае адкрывала савецкім войскам дарогу на Ліду і Вільню. Таму немцы збіраліся доўга абараняць гэтыя мясціны. Па ўспамінах генерала **Кузьмы Галіцкага**, які камандаваў 11-й гвардзейскай арміяй у войску 3-га Беларускага фронту, маладзечанская мясцовасць для баёў была складаная:

– Рэльеф мясцовасці на гэтых напрамках быў больш выгадны тым, хто абараняўся.

## Спачатку біліся за Краснае, а потым – за Маладзечна

Галоўнай задачай перад вызваленнем Маладзечна было вызваленне Краснага і адразанне адыходу нямецкіх войскаў па мінскай шашы. Савецкія салдаты правялі разведку боем і атрымалі паказанні ад палонных. Гэта дапамагло высветліць, што Маладзечна абаранялі часці 5-й танкавай, 14-й пяхотнай дывізій, а таксама і розныя іншыя спецыяльныя падраздзяленні нямецкай арміі.

**Войскі Чырвонай Арміі да канца 4 ліпеня выйшлі на паўднёва-ўсходнія подступы да Маладзечна. Аднак авалодаць горадам у той дзень не атрымалася.**

Маладзечна быў буйным вузлом чыгуначных і шашэйных дарог. Генерал Кузьма Галіцкі ў кнізе «Гады суровых выпрабаванняў» адзначаў, што аператыўнае значэнне Маладзечна вызначалася тым, што праз яго ажыццяўлялася ўзаемадзеянне нацысцкіх войскаў на напрамках Вільні і Літвы.

– Таму праціўнік і прыкладаў усе намаганні, каб утрымаць горад у сваіх руках. Для гэтага ён стварыў моцную абарону на дальніх подступах да Маладзечна. І хаця яна была пераадоленая правафланговымі злучэннямі нашай арміі, аднак гэта патрабавала часу і сіл большых, чым мы меркавалі, – пісаў Галіцкі.

**Пасля разгрому немцаў у вёсцы Краснае савецкія войскі сутыкнуліся з новай абарончай лініяй. Галіцкі ўспамінаў, што баі за Маладзечна пачаліся яшчэ 3 ліпеня з удзелам 16-га гвардзейскага корпуса.**

## Неспадзяваны манеўр і вызваленне Маладзечна

На світанні 4 ліпеня часці пад камандаваннем генерал-лейтэнанта танкавых войскаў **Віктара Абухова** занялі горад, аднак да 12 гадзін іх адкінулі на поўнач да станцыі Маладзечна.

Генерал-маёр **Павел Брыкель** успамінаў, на працягу 4 ліпеня паўночная ўскраіна горада і чыгуначная станцыя Маладзечна некалькі разоў пераходзілі з рук у рукі.

Кузьма Галіцкі згадваў, што рэльеф мог прывесці да зацяжных баёў, калі савецкія войскі пачалі б атаку з усходу ці паўднёвага ўсходу. Таму Галіцкі меркаваў, што нападзенне трэба пачынаць на поўдні і паўднёвым захадзе ад Маладзечна. Там нямецкія ўмацаванні былі слабейшыя, а мясцовасць была больш выгаднай для прымянення танкаў і артылерыі.

Такім чынам атаку вырашылі пачаць з поўдня і паўднёвага захаду 5 ліпеня. Наступленне аднавілі з раніцы. Манеўр, які рэкамендаваў Галіцкі, застаў нямецкія злучэнні неспадзявана – асноўныя сілы праціўніка стрымлівалі савецкія войскі з іншага боку Маладзечна.

**У 14 гадзін савецкія часці авалодалі горадам і знішчылі вялікую частку гарнізона праціўніка.**

Павел Брыкель распавядаў, што баі за Маладзечна былі надзвычай жорсткія. Па яго словах, кавалерысты змагаліся за кожную вуліцу, дом, вялі барацьбу з танкамі.

– 5 ліпеня баі, якія не перапыняліся ўсю ноч, разгарнуліся з яшчэ большай сілай. Толькі апошнім рашучым ударам танкавых, кавалерыйскіх, пяхотных і іншых часцей горад Маладзечна і чыгуначны вузел былі цалкам ачышчаныя ад праціўніка. Было 16 гадзін 30 хвілін.

**Маладзечна вызвалілі так хутка, што немцы не паспелі нават узарваць склады. Як успамінае Галіцкі, сярод трафеяў аказалася 500 тон гаручага, якое потым дапамагло з наступленнем на захад.**

Трынаццаць злучэнняў і часцей, якія вызвалілі Маладзечна 5 ліпеня 1944 года, атрымалі найменне «Маладзечанскіх».

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА па матэрыялах кнігі «Памяць. Маладзечна і Маладзечанскі раён».**

# У Празе зладзілі акцыю салідарнасці. Арганізатарам была дзяўчына, якая раней жыла ў Маладзечне

**Крысціна Шыянок родам з Мінска, але доўгі час жыла ў Маладзечне. Цяпер яна працуе перакладчыкам у Празе. Стала адной з беларусак, якая арганізавала акцыю салідарнасці за мяжой.**



На акцыі салідарнасці ў Празе.

Фота Яўгена ЯКІМОВІЧА.

Акцыі салідарнасці з беларусамі праводзяць ужо два тыдні больш чым у 30 краінах свету. Яны прайшлі ў ЗША, Польшчы, Германіі, Іспаніі, Нідэрландах, Балі, Інданезіі, Расіі, Вялікабрытаніі і іншых. «РГ» паразмаўляла з Крысцінай Шыянок пра акцыі салідарнасці і беларусаў у Чэхіі.

**– Што вас натхніла правесці акцыю салідарнасці?**

– Наша нефармальнае згуртаванне ці, больш дакладна, праект BLRCR існуе з 2017 года. За гэты час у Празе адбылася не адна акцыя-водгук на беларускія падзеі. З апошніх магу прыгадаць два пікеты супраць інтэграцыі Беларусі з Расіяй. Гэта акцыя, як і ўсе папярэднія, была для нас цалкам натуральнай рэакцыяй на тое, што адбываецца ў роднай Беларусі. У нас не стаяла пытання, ці ладзіць яе.

Пытанні былі тэхнічныя, калі, дзе, фармат. Што стала зыходным пунктам? Масавыя затрыманні людзей з ланцугоў салідарнасці ў апошні вечар збору подпісаў, а таксама журналістаў, якія тое асвятлялі. Выпадковай ахвярай стала і грамадзянка Чэшскай Рэспублікі.

Ноччу я напісала літаратару **Максу Шчуру**, з якім сябруем, што «думаю пра пікет». Ён адказаў: «лепш у цэнтры». Вось такі кароткі дыялог. Далей ужо былі арганізацыйныя моманты.

**– Як атрымалася сабраць столькі беларусаў у адным месцы за мяжой?**

– Пражская акцыя салідарнасці на Старамесцкай плошчы сабрала больш за 300 чалавек. Хоць першапачаткова мы падавалі заяўку на 30 асоб. За дзесяць гадоў жыцця ў Чэхіі не прыгадаю такой колькасці ўдзельнікаў. Людзі ехалі з іншых гарадоў – Брно, Оламаўц, Плзень... Былі таксама беларусы са Славакіі і Германіі.

Я думаю, што паўплывалі дзве рэчы. Па-першае, гэтым разам падзеі ў Беларусі закранулі слаі грамадства, якія раней былі «па-за палітыкай» альбо ва «ўнутранай эміграцыі». А беларусы Чэхіі – гэта своеасаблівы зрэз беларускага грамадства. Па-другое, ролю падмурка для кансалідацыі беларусаў замежжа сыгралі сацыяльныя сеткі. Суполка ў «Фэйсбуку» «Беларусы Чэхіі / Bělorusové v ČR / Belarusians in the Czech Republic», якую ў 2016 годзе стварыла мая паплечніца **Любоў Грункоўская** і якую мы разам адмініструем. Яна на сёння налічвае больш за 2000 удзельнікаў. Падобныя суполкі ёсць амаль ва ўсіх краінах, дзе жывуць беларусы. Больш сучасны трэнд – Telegram-каналы, -чаты. Якраз там гуртуецца новая хваля беларускіх студэнтаў, якія вучацца ў Чэхіі. Яны нам моцна дапамаглі.

**– Колькі доўжылася акцыя і пра што распавядалі людзі?**

– Прыкладна дзве гадзіны. Было мноства новых твараў. Але паралельна нас прыйшлі падтрымаць і даўнія чэшскія сябры Беларусі, напрыклад, драматург **Рэнэ Левінскі**.

Напачатку я ад імя суарганізатараў выказала падзяку ўсім, хто далучыўся, а таксама агучыла асноўную мэту акцыі – салідарнасць з тымі, хто мае смеласць у Беларусі рэалізоўваць свае законныя грамадзянскія і палітычныя правы. Таксама акрэсліла асноўныя патрабаванні чэшскіх беларусаў: спыненне пераследу і рэпрэсій, неадкладнае вызваленне палітычных зняволеных, рэалізацыя законных грамадзянскіх і палітычных правоў, свабодныя прэзідэнцкія выбары без фальсіфікацый.

У нас быў «свабодны мегафон», і людзі маглі выказваць свае думкі. Некаторыя прамоўцы плакалі. І мы таксама, калі іх слухалі. Настолькі прыгожа і шчыра гэта ўсё было. Як і спеў «Разбуры турмы муры! Прагнеш свабоды – то бяры!...» пад пражскім небам.

Напрыканцы, калі ў рукі ўзяў мегафон гомельскі відэаблогер **Віктар Рубцоў**, які цяпер працуе ў Чэхіі, было адчуванне, быццам мы на пікеце супраць «дармаедскага» дэкрэта. Гэта быў новы досвед, прынамсі, для мяне. Важным вынікам усёй акцыі лічу падпісанне калектыўнага ліста да прэзідэнта і прэм'ер-міністра Чэхіі (ініцыятыва Макса Шчура). Яшчэ адзін ліст ад дыяспары быў раней накіраваны ў Міністэрства замежных спраў Чэхіі.

**– Плануеце яшчэ праводзіць акцыі ў Чэхіі?**

– Пасля акцыі салідарнасці мы запрасілі ахвочых далучыцца да «беларускага палітычнага пікніка», на якім падпісваліся паштоўкі палітвязням і абмяркоўваліся далейшыя дзеянні. Мы імкнёмся прыцягнуць увагу чэшскага грамадства і, галоўнае, палітыкаў. Натуральна, гэта не апошняя акцыя. Мы будзем выходзіць, пакуль сітуацыя ў Беларусі не зменіцца. Бо нам не ўсё адно.



Крысціна Шыянок на акцыі ў цэнтры Прагі.

Фота з суполкі BLRCR у Facebook.

**– Ці чулі вы пра ланцуг салідарнасці 19 чэрвеня ў Маладзечне і што пасля яго адбывалася?**

– Паверце, беларусы Чэхіі пільна сочаць за тым, што адбываецца на Радзіме. Мы чытаем навіны, глядзім эфір, стрымы, а потым не спім па начах, думаючы, што можна зрабіць і як яшчэ дапамагчы.

Калі я пабачыла відэа з ланцуга салідарнасці ў Маладзечне, то адчула перадусім гонар за сваю малую радзіму, яе людзей. Я заўсёды ведала, што горад, які ў свой час адстаяў беларускія назвы вуліц, не можа не мець патэнцыялу.

Што тычыцца крымінальнай справы супраць **Паўла Пяскова**, то гэты хлопец не павінны апынуцца за кратамі, але для гэтага мы мусім перамагчы. Мяне вельмі хвалюе той факт, што адзін з супрацоўнікаў АМАПа трымаў баявы пісталет. Хочацца верыць, што беларус ніколі не стрэліць у свой народ. Хіба мы не мірныя людзі?

**– Вы працуеце ў Чэхіі цяпер, а ці плануеце вярнуцца ў Беларусь?**

– На сёння я працую судовай перакладчыцай у Празе. Варажыць не бяруся, бо жыццё, у адрозненне ад беларускіх выбараў, непрадказальнае. Але я дакладна б хацела быць ля вытокаў інстытута судовага перакладу ў новай Беларусі. Бо маю веды, досвед і, галоўнае, бачанне, як такі інстытут мог бы выглядаць. Дарэчы, 19 чэрвеня ў Мінску сярод выкрадзеных (не магу тое называць затрыманнямі) была грамадзянка Чэхіі. Перакладчыка на чэшскую ёй не далі. Гэта таксама сведчыць пра стан правоў чалавека ў нашай дзяржаве.

**Настасся УТКІНА.**

# Варатар Камінскі з «Астраўца» забіў са штрафнога. Яго параўноўваюць з Чылавертам

**Адной з галоўных падзей мінулага тура стаў гол Вячаслава Камінскага з «Астраўца». Камінскі – варатар, а варатары вельмі рэдка адзначаюцца галамі не толькі ў беларускім чэмпіянаце, але і ў іншых футбольных турнірах.**




Фота offside.by.

Камінскі гуляў і ў першай, і ў вышэйшай лізе Беларусі.

Распавядаем пра Вячаслава і чаму яго параўноўваюць з парагвайцам Чылавертам.

### Камінскі забіў у дададзены час

27 чэрвеня астраўчане сустрэліся на дамашнім полі з «Меліяратарам» з Жыткавічаў. Гульня прайшла без картак ад галоўнага суддзі матча. Аднак для «Астраўца» складвалася нялёгка.

**Ужо на першых хвілінах гол забіў Уладзімір Трафімовіч з «Меліяратара», а ў другім тайме Мікалай Каляда павялічыў разрыў паміж камандамі да двух галоў.**

У дададзены арбітрам час астраўчане атрымалі магчымасць прабіць штрафны ўдар каля варот сапернікаў. Шанец атрымаў варатар **Вячаслаў Камінскі**.

**Камінскі прабіў амаль пад перакладзіну, а варатар «Меліяратара» не змог выцягнуць мяч, хоць і адгадаў кут, у які будзе біць Вячаслаў.**

Нягледзячы на гэта, лік на табло застаўся **1:2** не на карысць «Астраўца».

**Каманда не можа выйграць чацверты матч запар і з лідараў у заходняй групе другой лігі апусцілася ўжо на шостае месца.**

Адзначым, што гэта было першае дамашняе паражэнне астравецкай каманды ў сезоне. А вось жыткавіцкія футбалісты дзеляць першае месца з «Баранавічамі».

### Хто такі Вячаслаў Камінскі?

Вячаслаў Камінскі нарадзіўся 5 ліпеня 1988 года ў Барысаве. Ён пачынаў кар'еру ў мінскім «Лакаматыве». Там да 2009 года гуляў за дубль.

**У 2009 годзе перайшоў у ФК «Маладзечна», які гуляў у другой лізе. У 2012-м перайшоў у «Смалявічы» і разам з гэтым клубам выйграў чэмпіянат другой лігі.**

Ад 2013 года выступаў за смалявіцкі клуб у першай лізе, але паступова саступіў месца асноўнага варатара **Аляксандру Чаркасу**. Таму ўлетку 2014 года перайшоў у «Слонім».

У студзені 2015 года трэніраваўся з мазырскай «Славіяй», якую на той момант узначальваў былы трэнер «Смалявічаў» **Юры Пунтус**. У сакавіку падпісаў кантракт з клубам. Большую частку чэмпіянату-2015 гуляў за дубль, часам з'яўляючыся на лаўцы запасных асноўнай каманды. 31 кастрычніка 2015 года дэбютаваў у вышэйшай лізе, правёў увесь матч на варотах супраць «Гомеля».

У лютым 2016 года пакінуў «Славію» і неўзабаве далучыўся да складу «Оршы».

У студзені 2017 года яго зноў запрасілі на прагляд у «Славію». Аднак у выніку футбаліст падпісаў кантракт з наваполацкім «Нафтанам». Правёў за асноўную каманду два матчы, пасля чаго ў чэрвені 2017 года пакінуў клуб. У жніўні 2017-га далучыўся да мінскага «Праменя», але ў тым годзе так і не згуляў за яго.

У 2018 годзе выступаў за «Оршу» ў першай лізе, але правёў за каманду толькі сем гульняў. Пасля пераехаў у Клецк, дзе згуляў за мясцовую каманду восем матчаў.

У 2019 годзе пачаў выступаць зноў за маладзечанскую каманду, але пасля падпісаў кантракт з «Андэрдогам» з Чысці. У сезоне-2020 выступае за «Астравец».

### І пры чым тут парагвайскі варатар Чылаверт?

Хасэ Луіс Чылаверт нарадзіўся ў Парагваі, выступаў за нацыянальную зборную. У дзяцінстве гуляў на пазіцыі форварда, але хутка стаў у вароты. Чылаверт часта выходзіў за межы штрафной зоны, біў штрафныя і пенальці, калі ў яго з'яўлялася такая магчымасць.

За гульнявую кар'еру Хасэ забіў 62 галы. Аднак гэта не рэкорд сярод варатароў: 130 галоў ёсць у бразільца **Ражэрыё Сэні**. У 1999 годзе Чылаверт адзначыўся сярод усіх варатароў свету. У матчы аргенцінскага чэмпіянату ён зрабіў хет-трык – усе галы забіў з пенальці.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## «Маладзечна» разграміла «Івацэвічы»

27 чэрвеня маладзечанская каманда разграміла на дамашнім полі футбалістаў з «Івацэвічаў».

Маладзечанцы адзначыліся голам у выкананні **Сямёна Хаткевіча** ў першым тайме. А пасля **Сяргей Корсак** аформіў хет-трык. У дададзены час гол забіў яшчэ і **Арцём Базылюк**. Футбалісты «Івацэвічаў» не забілі ніводнага мяча. Маладзечанская каманда выйграла 5:0.

Маладзечанцы знаходзяцца на пятым месцы ў сваёй групе. Каб прайсці ў наступны этап, камандзе трэба выйграваць усе наступныя матчы.

## «Ашмяны» нарэшце выйграюць

Ашмянская каманда нарэшце атрымала перамогу ў 10 туры першай лігі. Ашмянцы сустрэліся з «Хімікам» са Светлагорска.

**Арсеній Канцэдайлаў** з «Ашмянаў» яшчэ ў першым тайме аформіў дубль. Пасля перапынку трэці гол у сустрэчы забіў **Павел Дзямідчык**. **Януш Ладуцька** дабавіў у скарбонку мяч з пенальці.

**Яўген Куляшоў** не змог выратаваць «Хімік» ад разгромнага ліку адзіным голам за светлагорскую каманду. «Ашмяны» перамагаюць **4:1**.

Цяпер «Ашмяны» знаходзяцца на восьмым месцы ў першай лізе.

## «Смаргонь» не ўтрымала перамогу і першае месца

Смаргонцы ў 10 туры першай лігі сустракаліся з «Гомелем».

Нягледзячы на пяць жоўтых картак ад рэферы **Дзяніса Шчарбакова**, каманды размачылі лік толькі ў дададзены час першага тайма. **Яўген Савасцьянаў** са «Смаргоні» пасля парушэння правілаў забіў дакладны пенальці.

Аднак утрымаць мінімальную перамогу смаргонцы не змаглі. На 86 хвіліне **Дзмітры Гомза** з «Гомеля» зраўняў лік. Вынік – **1:1**.

«Смаргонцы» цяпер на другім радку першай лігі.

**Настасся УТКІНА.**




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Шырокі праезд у сцяне, плоце, які закрываецца створкамі або закладваецца жардзінамі.
3. Хімічны элемент, цяжкі коўкі метал серабрыстага колеру, які ў спалучэнні з вугляродам утварае чыгун і сталь.
4. Казачны герой незвычайнай сілы, удаласці і мужнасці.
5. Унутраны бок кісці рукі.
7. Стан, калі спакойна спадзяешся на іншага чалавека.
8. Частка тэрыторыі, якая складае адзінае цэлае ў якіх-небудзь адносінах.
10. Пярэдняя празрыстая частка знешняй абалонкі вока.
13. Сенажаць, пераважна заліўная, пакрытая шматгадовай травяністай расліннасцю.
15. Архітэктар.
16. Грашовая адзінка Беларусі.
17. Дадаткова, у дадатак да таго, што было або што ёсць.
18. Паўднёвае вечназялёнае пладовае цытрусавае дрэва сямейства рутавых.
21. Стадыя развіцця некаторых жывёльных арганізмаў (чарвякоў, насякомых, рыб), калі арганізм ужо вызваліўся ад зародкавых абалонак і вядзе самастойнае жыццё, але адрозніваецца па віду і будове ад канчаткова сфарміраванай жывёліны.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Месца, дзе што-небудзь разгаліноўваецца, разыходзіцца.
3. Няяркі, пацямнелы (пра фарбы, колеры).
4. Пасудзіна для кветак, садавіны або проста дэкаратыўнага прызначэння.
5. Самая высокая вучоная ступень.
6. Металічны шар для спартыўных практыкаванняў у штурханні.
9. Род твораў у галіне якога-небудзь мастацтва, які характарызуецца пэўнымі ўласцівасцямі, сюжэтнымі і стылістычнымі прыкметамі.
11. Калі Джэймс Кук спытаўся ў мясцовага жыхара, як называецца гэта жывёліна, той адказаў «Не разумею». Кук кепска ведаў мясцовую мову, і назва жывёлы прыжылася.
12. Лекавы прэпарат, які выкарыстоўваецца для расшырэння сасудаў, заспакаення нервовай сістэмы і папярэджання рвоты.
14. Невялікі мастацкі твор, напісаны рытмізаванай мовай.
15. Пажаданне спакойнай ночы.
19. Доўгі, тонкі, ачышчаны ад галля ствол дрэва, прызначаны для гаспадарчых мэт.
20. Нізкае месца сярод адхонных схілаў; нізіна.
22. Мастацкае канструяванне прамысловых вырабаў.

## Адказы на крыжаванку з №26

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 3. Вертыкаль. 4. Бочка. 7. Бізон. 8. Даклад. 10. Помста. 12. Зёлкі. 13. Пушча. 15. Лыжка. 17. Вакзал. 19. Ваніль. 21. Вітраж. 22. Лесвіца. 23. Вячэра. 24. Датчык. 26. Джынсы.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Праект. 2. Лінейка. 5. Бездань. 6. Забарона. 7. Брук. 9. Завушніца. 11. Плюс. 14. Базар. 15. Ліманад. 16. Ложак. 18. Бактэрыя. 20. Зборнік. 25. Валакно.

## ● ГАРАСКОП НА 3-9 ЛІПЕНЯ


**АВЕН.** Вас чакае сапраўдная карусель, створаная з тэрміновых і бягучых спраў. Але для вас гэта будзе лепш. Старайцеся, каб уся праца праходзіла ў адзіным тэмпе. Калі не выбівацца з рытму, эфект ад выкананых заданняў будзе каласальны.


**ЦЯЛЕЦ.** Перыяд абяцае масу сюрпрызаў, якія падкіне лёс. Ні ў якім разе не адмаўляйцеся ад усяго новага і незвычайнага. Калі сустрэнуцца на шляху годныя людзі, то абавязкова завяжыце з імі сяброўства. У будучыні сто разоў успомніце, як пачаліся вашы зносіны.


**БЛІЗНЯТЫ.** Не выключаны фуршэт ці юбілей, на які запросяць сябры. Банальная спрэчка на рабочую тэму можа прывесці да магутнага ўсплёску негатыўнай энергіі. Нават тыя, хто ціха маўчаў убаку, пачнуць бунтаваць і размахваць рукамі.


**РАК.** Маса важных спраў будзе ў бытавой сферы. Хвалюючы і прыемны перыяд. Сентыментальнасць і чуласць адыграюць галоўную ролю ў асабістым жыцці. Прыглядзьцеся лепш да чалавека, які моцна падобны на вас.


**ЛЕЎ.** Выдатны час для спартыўных трэніровак, актыўнага адпачынку. Галоўнае – не нашкодзіць здароўю і дзейнічаць мэтанакіравана. Абавязкова пазваніце чалавеку, пра якога раптам успомніце.


**ДЗЕВА.** Чакае перамяшчэнне як на блізкую, так і на далёкую адлегласць. Прыйдзецца задумацца, як дабірацца, калі трэба паспець да вызначанага часу. Вам пашанцуе са спадарожнікамі, як і з атрыманнем каштоўнай інфармацыі.


**ШАЛІ.** У асяроддзі знойдуцца людзі, якія будуць цалкам падтрымліваць вашы ідэі. Падзяліцеся з імі схемай рэалізацыі, атрымаеце неацэнны досвед. Не адмаўляйцеся ад магчымасці правесці час з сябрамі.


**СКАРПІЁН.** Прычын для рознагалоссяў з каханым чалавекам не будзе, але язык лепш трымаць за зубамі. Важна задумацца пра вашы адносіны з дзецьмі.


**СТРАЛЕЦ.** Вам прыйдзецца раскласці ўсё па палічках, каб даведацца праўду. У каханні расстаўце прыярытэты, каб не атрымаць ад выбранніка порцыю крытыкі. У любым выпадку ўмейце парыраваць, але без грубіянства і жэстыкуляцыі.


**КАЗЯРОГ.** Сямейным людзям не перашкаджае ўзяць адгул, каб усё зрабіць. У фінансавай сферы планы рэзка зменяцца, калі не забудзецеся пра эканомію. З абдымкамі і пышнымі пірагамі будуць сустракаць вас сябры. Не адмаўляйцеся ад паходу ў госці.


**ВАДАЛЕЙ.** Сюжэт у любоўных адносінах будзе нагадваць вялікіх класікаў. Вам толькі застанецца зазірнуць у літаратуру, каб нагадаць сабе канцоўку.


**РЫБЫ.** Добры час, каб прысвяціць яго любімаму занятку. Падумайце, чаго вам даўно хочацца, і пачынайце займацца. Марудзіць у гэтым пытанні не варта.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 9 | 1 | | | | | 4 | 8 |
| 6 | 5 | | | | | 3 | 1 | |
| 4 | | | | | | | 7 | 6 |
| | | 2 | | 5 | | | | 3 |
| 1 | 3 | 9 | | | | | | |
| 5 | | 4 | | | | | 2 | 9 |
| 8 | | | | | | 2 | | |
| | 4 | 5 | | | | 8 | | 7 |
| | 7 | | | | | 6 | | 1 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Чым вы снедаеце?



**Алеся Буневіч, спецыяліст па турызме, Маладзечна:**

– У мяне на сняданак мюслі, каша або бутэрброды.



**Валянціна Пастарнак, у дэкрэтным адпачынку, Вілейка:**

– Заўсёды па-рознаму. Напрыклад, сёння быў амлет і чай.



**Марына Шытыка, вядучая святаў, Маладзечна:**

– Часцей за ўсё, ем тварог, улетку абавязкова з ягадамі. Часам амлет, ёгурт і, вядома, кава.



**Алена Белавус, інструктар па верхавой яздзе, Маладзечна:**

– Кава з вяршкамі без цукру, амлет.



**Алеся Маліноўская, у дэкрэтным адпачынку, Ашмяны:**

– Мой сняданак – асноўны сытны прыём ежы. Гэта яешня з грыбамі, памідорамі, сырам і гароднінай, або замест грыбоў курыца, кава. Калі ўся сям'я разам, то бліны з мачанкай ці смажаным салам і цыбуляй. Такі сняданак, які быў у маім дзяцінстве і дзяцінстве мужа.



**Мікалай Зюканаў, інжынер-канструктар, Маладзечна:**

– Спачатку на галодны страўнік п'ю сырую ваду, каб запусціць арганізм. Праз паўгадзіны – каву ці гарбату без цукру. Потым ем хлябцы зёлкавыя з мёдам альбо джэмам, пачак тварагу.



**Кацярына Закрэўская-Багацька, працуе на чыгунцы, Маладзечна:**

– Пельменямі. Якая зарплата, такі і сняданак.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

### У абласным этапе конкурсу па фларыстыцы ёсць пераможцы з рэгіёна

МАЛАДЗЕЧНА

15 прац з Маладзечанскага раёна накіравалі на абласны этап конкурсу па фларыстыцы «Кветкі Перамогі». Дзве працы перамаглі.

Праца Сцяпана Пякарскага, Віялеты Шышко і Данііла Яцкевіча з Дубраўскага ВПК «дзіцячы сад-сярэдняя школа» заняла другое месца ў намінацыі «Гірлянда Перамогі».

Кіравала вучнямі настаўніца **Раіса Голуб**.

У намінацыі «Букет ветэрану» другой стала вучаніца з Турэц-Баярскай школы **Паліна Роўная**. Кіраўнік – **Ганна Барташэвіч**.

**Аддзел інфармацыі.**

### Жанчын з рэгіёна ўзнагародзілі ордэнам Маці

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
ВАЛОЖЫН

Указ пра гэта Аляксандр Лукашэнка падпісаў 18 чэрвеня.

Сярод узнагароджаных – мамы з рэгіёна, якія нарадзілі і выхоўваюць пяць і больш дзяцей. Гэта:

• **Вера Бабей** з Маладзечна – санітарка Маладзечанскай ЦРБ;
• **Ганна Бондар** з Маладзечанскага раёна – жывёлагадоўца ААТ «Усход-Агра»;
• **Таццяна Гулянкова** з Радашкавічаў – гаспадыня;
• **Святлана Календа** з Краснага – гаспадыня;
• **Таццяна Клюшына** з Мароськаў Маладзечанскага раёна – гаспадыня;
• **Станіслава Кожан** з Заскавічаў Маладзечанскага раёна – гаспадыня;
• **Дар'я Крывашэя** з Маладзечна – гаспадыня;
• **Ганна Лазарчук** з Вілейкі – гаспадыня;
• **Алена Паляшук** з Дораў Валожынскага раёна – гаспадыня;
• **Ірына Чарняўская** з Маладзечанскага раёна – шліфоўшчык па дрэве на «Забудове»;
• **Яўгенія Шавель** з Крыніцы Маладзечанскага раёна – гаспадыня.

**Паводле president.gov.by.**

### Сёлета плануюць пачаць будаўніцтва школы-садка

МАЛАДЗЕЧНА

За 2021-2023 гады на Міншчыне плануюць пабудаваць каля дзесяці сацыяльных аб'ектаў. З'явіцца такі і ў Маладзечне.

Ужо сёлета павінны пачаць будаваць дзіцячы садок-пачатковую школу ў Маладзечне, ва Усходнім мікрараёне. Цяпер завяршаюць этап праектавання.

Як паведамлялася раней, установа будзе разлічанае на 471 месца.

**Паводле БелТА.**

## Чытайце праз тыдзень:

● Настаўнік з Міхалішкаў перахварэў на каронавірус. Пасля гэтага ўпэўніўся: COVID-19 – не псіхоз, а небяспечнае захворванне. Сёння мужчына ўжо дома. Пра тое, як лячыўся і ачуняў у новым корпусе Астравецкай бальніцы, спадар Казімір раскажа чытачам.

## 4 ліпеня, субота

**Вецер:** паўночны, 3 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература +6,6°С у 2019 годзе
Максімальная тэмпература +30,4°С у 2015 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 42,8 мм у 1980 годзе

Паводле meteoinfo.by.



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№27 (1314) 3.07.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1094. Падпісана ў друк у 9.00 2.07.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.